КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 9 (281) ◂ 2 сакавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час







ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10009

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КАЛІ І ПЫЛ МАЕ ЗНАЧЭННЕ...**

Размова Вольгі Хвоін з рэжысёрам-мультыплікатарам Міхаілам Тумелям

▸ З НАГОДЫ

## САНКЦЫІ: КРЫТЫЧНАЯ МАСА

Генадзь КЕСНЕР

**Насуперак меркаванням экспертаў, быццам еўрапейскія санкцыі не ўплываюць на беларускае кіраўніцтва, падзеі апошніх дзён паказалі, што гэта не так.**




Захады ўладаў па фактычнай высылцы з краіны паслоў Еўрасаюза і Польшчы, а таксама меры ў адказ з боку ЕС сведчаць пра тое, што санкцыі ёсць вельмі балючай для беларускага рэжыму тэмай.

Але пра ўсё па чарзе. 27 лютага ў Брусэлі адбылося чарговае пасяджэнне Савета Еўрапейскага саюза, у які ўваходзяць міністры замежных спраў усіх 27 краін-удзельніц ЕС. Яшчэ за некалькі дзён да саміта хадзілі размовы, што на ім будзе разгледжаны пакет санкцый у дачыненні да высокапастаўленых беларускіх службовых асобаў, якіх абвінавачваюць у парушэннях правоў чалавека, а таксама некаторых прадпрыемстваў, набліжаных да кіраўніцтва Беларусі. Аднак за пару дзён да пасяджэння высветлілася, што ў парадку дня «беларускага пытання» няма. Хоць некаторыя асобы ў Брусэлі казалі, што міністры ўсё ж закрануць і тэму Беларусі.

Закранулі. Пашырылі на дваццаць адну асобу спіс тых, каму забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза. У новы спіс трапілі начальнік мінскай міліцыі і дваццаць суддзяў, але не трапіў вядомы тутэйшы бізнэсмэн Юры Чыж — адзін з самых заможных і ўплывовых людзей у Беларусі. Супраць унясення прозвішча Чыжа ў спіс выступіла Славенія, якая, паводле экспертаў, мае супольныя камерцыйныя інтарэсы з яго кампаніяй «Трайпл».

Нават пасля такіх кволых крокаў з боку Еўропы зноў нагадалі пра сябе адвакаты беларускага кіраўніцтва з усходняй суседкі. «Расія шкадуе з нагоды пашырэння Еўрасаюзам санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў», — заявіў у той жа дзень у расійскай сталіцы кіраўнік камітэта Дзяржаўнай думы па справах СНД, намеснік кіраўніка дэлегацыі Расіі ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Леанід Слуцкі. «Расія не стамляецца паўтараць: гэта дэструктыўны падыход», — дадаў высокапастаўлены маскоўскі чыноўнік. Па словах Слуцкага, рэжым санкцыяў толькі ўзмацняе ізаляцыю Беларусі, што не спрыяе прасоўванню дэмакратычных каштоўнасцей. «Такім чынам, Беларусь, якая з’яўляецца для Расіі братэрскай дзяржавай, застаецца краінай-ізгоем на еўрапейскім кантыненце, а гэта дзіка ў рэаліях XXI стагоддзя», — падкрэсліў Слуцкі.

Ну, калі расійскі чыноўнік кажа пра прасоўванне дэмакратычных каштоўнасцей, то гэта ў сённяшніх варунках апроч смеху нічога не выклікае. Таксама выклікаюць смех і словы пра дзікунства ізаляцыі Беларусі на еўрапейскім кантыненце. Можна не сумнявацца, што гэткая ізаляцыя на руку менавіта той жа Расіі, бо калі афіцыйны Мінск фактычна пасварыўся з Еўропай, дык гэта толькі набліжае яго да Масквы, штурхае яго ў сталёвыя расійскія абдымкі і робіць яго ўсё больш і больш залежным ад Крамля. І ў эканамічным, і ў палітычным плане. Так што заявы Леаніда Слуцкага — слоўная мішура, і не больш за тое.

Трэба ўзгадаць і нядаўнюю сумесную заяву кіраўнікоў Беларусі і Расіі адносна санкцый з боку Захаду: «Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі пацвярджаюць недапушчальнасць выкарыстання захадаў эканамічнага ціску або прымусу ў міждзяржаўных стасунках», — адзначылі Аляксандр Лукашэнка і Дзмітры Мядзведзеў.

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі лічыць, што асабіста Маскве гэтая заява двух кіраўнікоў нічога не каштуе, бо «Мядзведзеў зараз ёсць класічнай “кульгавай качкай” на падтанцоўцы ў Пуціна». «Ён пакуль яшчэ фармальна з’яўляецца вышэйшай службовай асобай краіны, але нічога не вырашае. І Пуцін, калі праз некаторы час вернецца ў Крэмль, можа сказаць, што ён увогуле нічога не абяцаў, маўляў, гэта ўсё Мядзведзеў», — мяркуе эксперт.

Разам з тым, адзначае Аляксандр Класкоўскі, апеляцыі Мінска да Масквы сведчаць пра тое, што заходнія санкцыі ствараюць пэўны дыскамфорт і спараджаюць фобіі. Эканамічнае становішча беларускага рэжыму надзвычай няўстойлівае, таму ён вельмі залежыць ад Масквы, кажа аналітык. «У той жа час, за кошт таннай расійскай нафты рэзка падскочыў экспарт у краіны ЕС. Як ні парадаксальна, але, знаходзячыся ў стане «халоднай вайны» з Еўрасаюзам, афіцыйны Мінск цалкам залежыць ад гешэфтаў з ЕС. Еўропа не хоча пачынаць эканамічную вайну, бо гэта б’е па яе ж інтарэсах. Але логіка развіцця сюжэта «халоднай вайны» ўсё ж прымушае Еўропу, няхай і сімвалічна, але ўзмацняць санкцыі», — падкрэсліў Класкоўскі.

І такое ўзмацненне можа адбыцца ўжо ў сакавіку, калі Савет ЕС мяркуе разгледзець поўны спіс беларускіх прадпрыемстваў і бізнэсмэнаў, да якіх могуць быць ужыты санкцыі. Пра гэта 27 лютага ў Брусэлі заявіла вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан. Яна нагадала, што раней Савет ЕС прыняў пастанову, якая пашырае магчымасці прымянення санкцыяў у дачыненні да беларускіх фізічных і юрыдычных асобаў, што спрычыніліся да парушэнняў асноўных правоў і свабодаў. «Мы прынялі крытэрыі для санкцыяў, каб закрануць тых, хто вінаваты ў працягу парушэння правоў чалавека, а таксама тых, хто падтрымлівае альбо з’яўляецца бенефіцыярам рэжыму Лукашэнкі», — падкрэсліла Кэтрын Эштан.

«У беларускага кіраўніцтва ёсць трывога, што ў адзін цудоўны дзень санкцыі дасягнуць нейкай крытычнай масы, і пачнуцца цяпер ужо заўважныя негатыўныя працэсы: урон беларускай эканоміцы і падзенне дабрабыту рэжыму могуць стаць ужо адчувальнымі і крытычнымі. Гэта і напружвае беларускае кіраўніцтва», — рэзюмуе Аляксандр Класкоўскі.

Пасля дыпламатычнага скандалу з высылкай і адкліканнем паслоў вельмі верагодна, што 23 сакавіка Савет Еўрасаюза не толькі пашырыць спіс неўязных беларускіх чыноўнікаў у краіны ЕС, але ўпершыню можа ўвесці і адчувальныя для ўладаў эканамічныя санкцыі. Гэта ўжо далі зразумець міністры замежных спраў Германіі, Францыі, Польшчы, Швецыі ды іншых еўрапейскіх дзяржаваў.

СКАНДАЛ

## ЗША ШКАДУЮЦЬ, ШТО БЕЛАРУСЬ ПАГЛЫБЛЯЕ САМАІЗАЛЯЦЫЮ

ЗША выказалі глыбокае шкадаванне з нагоды рашэння ўрада Беларусі запатрабаваць ад'езду кіраўніка прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза і амбасадара Польшчы для кансультацый і адначасова адклікаць прадстаўніка ў Брусэлі і амбасадара ў Варшаве. Пра гэта заявіў афіцыйны прадстаўнік дзяржэпартаменту ЗША Марк Тонар.

Як адзначае прадстаўнік дзяржэпартаменту ЗША, гэтыя дзеянні беларускіх уладаў, «як і выгнанне ў 2008 годзе амерыканскага амбасадара ў Беларусі і закрыццё офіса АБСЕ ў Мінску ў сакавіку 2011 года, толькі паглыбляюць самаізаляцыю Беларусі», — перадае РІА «Навіны».

Марк Тонар заявіў, што ЗША звярнулі ўвагу на заяву кіраўніцы дыпламатыі Еўрасаюза Кэтрын Эштан, якая абвясціла аб тым, што ўсіх паслоў краін-сябраў ЕС адклічуць у свае сталіцы для кансультацый на знак салідарнасці і адзінства. Па словах Марка Тонара, ЗША падтрымліваюць сваіх партнёраў у ЕС і далучаюцца да іх, «заклікаючы Беларусь спыніць падаўленне грамадзянскай супольнасці і дэмакратычнай апазіцыі».

## РЭАКЦЫЯ ЕЎРОПЫ

Еўрапейскія міністры жорстка адрэагавалі на рашэнне ўладаў Беларусі выслаць з краіны кіраўніцы Прадстаўніцтва Еўрасаюза і амбасадара Польшчы.

«Усё больш і больш Лукашэнка ўпадае ў адчай. І цяпер гэта бачна вельмі добра. Адкліканне амбасадараў ЕС і Польшчы — гэта крок, які сутыкнецца з адказам усяго Еўрасаюза. Дыктатар пачынае паліць за сабой апошнія масты, а гэта не значыць, што ён добра скончыць», — перадаюць словы старшыні замежнага ведамства Швецыі Карла Більта польскія СМІ.

На думку літоўскага міністра Ажубаліса, рашэнне Лукашэнкі адклікаць амбасадараў ЕС і Польшчы — вялікая памылка. «Вельмі шкада, што ён так паступіў. Гэта нямудры крок, бо адкліканне амбасадараў, якія з'яўляюцца самымі важнымі постацямі для правядзення дыялогу, — гэта яснае пацверджанне, што ён больш дыялог весці не хоча», — заявіў Аўдроніс Ажубаліс.

«У знак салідарнасці і еднасці, вырашана, што амбасадары ўсіх краін ЕС будуць адкліканы з Мінску на кансультацыі ў іх сталіцы. Усе краіны ЕС таксама выклічуць беларускіх амбасадараў у свае замежныя міністэрствы», — паведамляе ў спецыяльным звароце Кэтрын Эштан, абмеркаваўшы беларускае пытанне на надзвычайнай сустрэчы ў Брусэлі.

Сігнал да такой хуткай і жорсткай рэакцыі даў нямецкі замежны міністр Гіда Вэстэрвеле, які першы прыняў рашэнне адклікаць свайго амбасадара з Мінску. «Дыктатар памыляецца, думаючы, што можа нас падзяліць. Мы будзем рэагаваць разам, ЕС ды Польшча могуць разлічваць на поўную салідарнасць Германіі», — заявіў міністр.

## БУЗЭК: ДЗЕЯННІ ЛУКАШЭНКІ НЕПРАДКАЗАЛЬНЫЯ

Былы кіраўнік Еўрапейскага парламенту Ежы Бузэк не лічыць нечаканай высылку Мінскам паслоў Польшчы і ЕС.

«Пасля таго, што Лукашэнка зрабіў у мінулым годзе, ад яго можна чакаць усякага. Мы павінны быць гатовыя да таго, што ён кідаецца ў скрайнасці», — адзначыў ён.

«Былі высланыя паслы ЕС і Польшчы, бо менавіта яны гучней за ўсіх гаварылі аб правах чалавека і патрабавалі змены сітуацыі ў Беларусі. Гэтай краіне пагражае эканамічная катастрофа. І Лукашэнка павінен вырашаць. Хоча ён супрацоўнічаць з Захадам, выконваючы пры гэтым нашы асноўныя правы? Ці ён хоча падпарадкавацца Расіі, за кошт сярод іншага, перадачы ёй энергетычных актываў і ўдзелу ў стварэнні новага ўсходняга саюза пад эгідай Пуціна. Кожны рух дыктатара магчымы, ён чалавек непрадказальны», — заявіў Ежы Бузэк у інтэрв'ю «Rzeczpospolita».

## ПРАТАСЕВІЧ: САНКЦЫІ ПАЧЫНАЮЦЬ ПРЫНОСІЦЬ ВЫНІК

Віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага парламенту Яцэк Пратасевіч лічыць, што высылка Мінскам еўрапейскіх дыпламатаў з'яўляецца прыкметай таго, што санкцыі ЕС усё ж дзейнічаюць.

Ён таксама выказаў меркаванне аб неабходнасці ўзмацнення жорсткасці санкцый ЕС, пакуль Мінск «не ацверазее». «Не адмовіцца ад дыпламатычных крокаў і не выпусціць палітвязняў», — сказаў Яцэк Пратасевіч, перадае Gazeta.pl.

У сваю чаргу прэс-сакратар польскага МЗС Марцін Басацкі лічыць, што дзеянні беларускіх уладаў з'яўляюцца непрыязнымі ў адносінах да ўсяго ЕС. «Беларускія ўлады даўно ведаюць умовы вяртання да дыялогу з Еўрасаюзам: спыненне рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і выхад на шлях дэмакратызацыі», — заявіў ён.

## КРАІНЫ ЕС АДКЛІКАЮЦЬ ПАСЛОЎ

Краіны ЕС адклікаюць сваіх паслоў з Беларусі для кансультацый, паведаміла Майя Качыянчыч, прэс-сакратар вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан.

«Акрамя таго, усе беларускія паслы ў ЕС будуць выкліканыя ў міністэрствы замежных спраў краін іх знаходжання», — дадала Качыянчыч.

У сакавіку Савет міністраў ЕС разгледзіць поўны спіс беларускіх прадпрыемстваў і бізнесменаў, да якіх могуць быць прымененыя санкцыі ЕС, паведаміла Кэтрын Эштан.

СКАНДАЛ

# УЛАДЫ ТАКСАМА РЫХТУЮЦЬ СПІС?

Генадзь КЕСНЕР

**Гледзячы па ўсім, беларускае кіраўніцтва вырашыла адпомсціць сваім апанентам пасля пашырэння Саветам Еўрасаюза спіса асобаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю краінаў-удзельніц ЕС.**

Як стала вядома парталу TUT.BY з крыніцы, блізкай да ўладных структураў, зараз «у вярхах» разглядаецца спіс вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў, якія, па меркаванню чыноўнікаў, наўпрост заклікалі да ўвядзення санкцыяў супраць Беларусі і якім будзе забаронена пакідаць межы краіны.

У папярэднім спісе, па звестках партала, налічваецца 108 прозвішчаў, у тым ліку першага кіраўніка незалежнай Беларусі прафесара Станіслава Шушкевіча, старшыні ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Жанны Літвіной, лідара Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука. Наколькі рэальным можа быць гэты спіс?

Як падкрэсліў у інтэрв'ю «Новаму часу» палітолаг Юры Чавусаў, на дадзены момант у Беларусі невыязнымі па розных прычынах з'яўляюцца некалькі сотнь тысяч чалавек.

«І ўмовы, па якіх людзі трапляюць у гэтыя спісы, дастаткова празрыстыя і вядомыя. У тым ліку, яны дазваляюць уладам уключаць у такія спісы тых, у каго ёсць непагашаныя даўгі перад дзяржавай ці наяўнасць нейкага грамадзянскага іску ў дачыненні да гэтага чалавека, — адзначае эксперт. — Але мне падаецца малаверагодным, што ўлады будуць выкарыстоўваць менавіта такі механізм, бо гэта не будзе адпавядаць тым прычынам, па якіх канкрэтнай асобе забаронены выезд. Я думаю, што гаворка можа ісці хутчэй пра пачатак крымінальнага пераследу гэтых асобаў, і на падставе крымінальных справаў, напрыклад, паводле артыкула "Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь" сапраўды можа быць накладзена абмежаванне на выезд за межы краіны. Мне такі шлях падаецца больш верагодным. Ён больш законны паводле вар'яцкіх беларускіх законаў, бо ёсць такі артыкул за дыскрэдытацыю Беларусі, і гэты шлях больш просты і больш гнуткі».

Варта нагадаць, што і раней мелі месца выпадкі, калі вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў без тлумачэння прычын беларускія пажнікі на мяжы здымалі з цягнікоў і рэйсавых аўтобусаў. Так што нічога асабліва новага тут улады не прыдумляюць. Але, як лічаць незалежныя назіральнікі, такіх выпадкаў, калі згаданы спіс насамрэч ужо існуе ці яшчэ ўзнікне, стане значна болей.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# У БАНДАРЭНКІ АБВАСТРЫЛІСЯ ХВАРОБЫ

Генадзь КЕСНЕР

***Жонка палітзняволенага Змітра Бандарэнкі, які адбывае пакаранне ў выглядзе двух гадоў пазбаўлення волі ў Магілёўскай папраўчай калоніі № 15, з ліста ад мужа даведалася пра абвастрэнне ў яго хваробаў.***

Як распавяла Вольга Бандарэнка «Новаму часу», лісты ад мужа яна атрымлівае больш-менш рэгулярна.

«З апошняга ліста вынікае, што ў яго абвастрыліся хваробы: баліць спіна, у яго падагра, яшчэ ў яго нейкі рэўматоідны артрыт — нешта з суставамі, да таго ж яшчэ ён і прастудзіўся, — кажа жонка палітвязня. — Гэта я ўжо цяпер ведаю, што яго ўсё ж былі паклалі ў санчастку. Але мне проста цікава, да якой ступені ён прастудзіўся, таму што калі ён спачатку зусім ніякі прыйшоў у санчастку, яму проста зрабілі ўкол, далі антыбіётыкаў і сказалі: ідзі. Ён запытаўся: можа, мне хаця б можна ўдзень прылегчы ў кубрыку? Яму адказалі: ідзіце і не гандлюйцеся. Але калі яго ўсё ж паклалі ў санчастку, то мне нават страшна ўявіць, што з ім здарылася пасля таго, як яго першы раз адправілі прэч, якая ў яго была тэмпература. А так у яго ўсё па-ранейшаму. Дзіма піша, што на хуткае вызваленне не разлічвае, але настрой у яго дастаткова баявы, як звычайна. Я ніколі не бачыла і не чула, каб ён быў у нейкім упадку ці дэпрэсіі. І зараз ён, так бы мовіць, у тонусе, хаця, шчыра сказаць, я сабе гэтага не ўяўляю».

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СЯРГЕЙ КАВАЛЕНКА Ў ТУРЭМНАЙ БАЛЬНІЦЫ

**Актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленку перапраўлі з віцебскага СІЗА–2 у Мінск. Зараз ён знаходзіцца ў турэмнай бальніцы пры папраўчай калоніі №1 на вуліцы Валадарскага.**

Як распавяла жонка вязня Алена Каваленка, яго перавезлі ў сталічны шпіталь 28 лютага. Аднак родныя даведаліся пра гэта толькі праз дзень — бацька Сяргея, Аляксандр Каваленка, ранкам спрабаваў наведаць сына ў СІЗА–2. І тады пачуў гэту навіну.

«Этапавалі яго, хутчэй за ўсё, на адным з вечаровых цягнікоў, што ідуць ад нас у сталіцу. Але ў сувязі з чым, пакуль не вядома. Думаю, што ў бліжэйшы час мы дазнаемся, у чым прычына. Аднак, мяркую, Сяргею ў тым шпіталі будзе лепей, чым у віцебскім СІЗА», — лічыць Алена Каваленка.

Напярэдадні, 28 лютага, мужу і жонцы Каваленкам дазволілі спатканне ў віцебскім СІЗА–2. Падчас гэтай сустрэчы Сяргей паведаміў Алене, што збіраецца ісці ў сваёй галадоўцы на знак пратэсту да канца — пераможнага ці смяротнага.

Спатканне доўжылася 3 гадзіны. Размова ішла праз шкло, Алена паказала мужу сваё фота з дзецьмі. Па словах жанчыны, стан мужа вельмі цяжкі: «Ён страціў ужо каля 30 кілаграмаў. Яму нават нязручна сядзець, бо зусім няма тлушчавай праслойкі. У яго кружыцца галава, баляць сэрца, ныркі, печань. Ён мне не скардзіўся, гэта я ўжо сама выпытвала».

Тым не менш, Каваленка збіраецца галадаць і далей.

«Сяргей сказаў мне, што пойдзе ў сваім намеры да канца. Кажа, што ніколі не адчуваў у сабе такой маральнай моцы. Я напачатку размовы спрабавала прасіць, каб ён кінуў галадаць. Аднак муж адразу абарваў гэту размову і сказаў, што болей з гэтага шляху не сатупіць. Дадаў, што лічыць ганьбай тое, што тады, раней, пачаў есці. «Я зганьбаваў гэтым і сябе, і тых людзей, якія ў мяне верылі. Каб я не пачаў тады есці, то зараз быў бы ўжо на волі», — такія былі ягоныя словы. Разам з тым прызнаўся, што фізічныя сілы ў яго ўжо на сыходзе. Максімум, кажа, мяне хопіць на тыдзень. Таму яго трэба тэрмінова ратаваць!» — непакоіцца Алена.

Пра свой суд Каваленка ў размове з жонкай адазваўся наступным чынам: «Нават канваіры казалі мне, што я трымаўся годна на судзе. А калі я казаў заключную прамову, уражаныя былі нават міліцыянты і іхнія жонкі, якія сядзелі ў зале ў якасці «народа». Суддзя нервавалася, у яе хадзілі жаўлакі, але было бачна, што ёй даставляе задавальненне гэты здзек з мяне», — перадала Алена Каваленка словы мужа.

Сяргей Каваленка 70 дзён знаходзіцца ў камеры-адзіночцы. «Ніякіх стасункаў ні з кім ён не мае. Камера такая малая, што там можна праходзіць толькі бокам, там няма ніякай свабоды руху», — распавядае Алена. Вязень шмат чытае. Перачытау гару класічнай літаратуры: Джэка Лондана, Уладзіміра Караткевіча, «Тутэйшых» Купалы... Зараз чытае Мальера. І Біблію.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДЭМАРШ НА РОЎНЫМ МЕСЦЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Гэтага не маглі дамагчыся ані беларуская апазіцыя, ані розныя лабісты ў Еўропе, ані ўся беларуская эміграцыя. Дамагчыся буйнога дыпламатычнага скандалу на практычна роўным месцы — для гэтага трэба мець вялікі талент, вялікі энтузіязм і поўную адсутнасць вытрымкі…**

27 лютага на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін ЕС у Брусэлі ў так званы чорны спіс быў уключаны яшчэ 21 беларускі чыноўнік — прадстаўнікі судовай сістэмы і праваахоўных органаў. Трэба заўважыць, што гэта рашэнне не тычылася санкцый супраць беларускіх бізнэсмэнаў, прадпрыемстваў і хоць колькі значных беларускіх чыноўнікаў.

Тым не менш, афіцыйны Мінск узарваўся. Кіраўніку прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майры Моры і паслу Польшчы Лешаку Шарэпку было прапанавана «выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці націску і санкцый». Такую пазіцыю агучыў прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных. У Мінск для кансультацый адклікаНы пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Еўрасаюзе Андрэй Еўдачэнка і пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак. Афіцыйны Мінск таксама закрые ўезд на тэрыторыю Беларусі шэрагу асобаў з краін Еўрасаюза, якія садзейнічалі ўвядзенню абмежавальных мер у дачыненні да Беларусі.

Адказ не прымусіў сабе чакаць. Сваіх паслоў для кансультацый адклікалі ўсе краіны Еўрасаюза. Такога дыпламатычнага дэмаршу не было з 1998 года, калі здарыўся знакаміты «канфлікт у Драздах». Тады Лукашэнка для абсталявання сваёй рэзідэнцыі вытурыў паслоў Еўропы і ЗША з іх рэзідэнцый, а яны пакінулі краіну.

Ну і каму ад гэтага дэмаршу стала лепш? Савет міністраў замежных спраў Еўрасаюза першапачаткова планаваў увесці санкцыі супраць 135 службовых асобаў. Абмежаваліся 21, і тое не канчаткова — поўны спіс беларускіх прадпрыемстваў і бізнэсмэнаў, да якіх могуць быць прыменены санкцыі ЕС, будзе разгледжаны ў сакавіку. У сувязі з дыпламатычным скандалам можа быць усё па максімуму.

Не відаць нам, як сваіх вушэй без люстэрка, еўрапейскіх крэдытаў, «Усходняга партнёрства». Пад вялікі сумнеў падпадае галоўная «фішка» Лукашэнкі — Чэмпіянат свету па хакеі з шайбай у 2014 годзе.

Моцны ўдар пад дых атрымала і Славенія, якая фактычна заблакавала «беларускае пытанне» на пасяджэнні міністраў замежных спраў ЕС 27 лютага. Калі не будзе ЧС па хакеі ў Мінску — любімая цацка Славеніі і Чыжа, гатэль «Кемпінскі», застанецца без пастаяльцаў.

І самы адэкватны адказ на свае ініцыятывы атрымалі тыя, хто не так даўно, напачатку лютага, уздымаў галасы за тое, каб скасаваць санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў. Усе іхныя ініцыятывы і дыскусіі скасавалі адным рашэннем беларускія ўлады.

А беларускаму МЗС усё няймецца. Паездка паслоў ЕС у вызначаным кантэксце можа спрыяць вяртанню сітуацыі ў рэчышча канструктыўнага дыялогу — заявіў Савіных, каментуючы рашэнне аб адкліканні амбасадараў краін Еўрасаюза ў сталіцы іх краін для кансультацый.

«Калі паслы ў ходзе кансультацый здолеюць растлумачыць у сваіх сталіцах бесперспектыўнасць палітыкі санкцый і ціску, то гэта будзе насіць пазітыўны характар. У гэтым кантэксце іх паездка можа спрыяць вяртанню сітуацыі ў рэчышча канструктыўнага дыялогу, што і прапануе беларускі бок», — сказаў Савіных.

Цікава, няўжо ў беларускім МЗС распыляюць амфетамін па дыванах і чырвоных дарожках? Гэта ж трэба дадумацца — назваць дэмарш паслоў «пазітыўным характарам» і «вяртаннем сітуацыі ў рэчышча канструктыўнага дыялогу»!

І невядома, ці не пацерпяць ад гэтага кроку беларускія грамадзяне. Калі раней вытурылі пасла ЗША і па патрабаванні беларускага боку скарацілі штат пасольства, то консульства ЗША прапанавала ездзіць па візы ў Маскву ды Кіеў. Калі зараз прыпыняць выдачу віз Польшча і Літва — гэта будзе швах. Ужо зараз пачаў хадзіць анекдот: «У цябе шэнгенская віза ёсць? — Не, няма. — І не будзе!»

І вельмі нервова беларускія ніжэйшыя чыноўнікі адрэагавалі на такую сітуацыю. Яны сталі заспакойваць самі сябе.

Беларуская сталіца не панясе фінансавых страт, калі Чэмпіянат свету па хакеі 2014 года, які павінен адбыцца ў Мінску, усё ж будзе адменены. Пра гэта 29 лютага заявіў начальнік упраўлення фізічнай культуры, спорту і турызму Мінгарвыканкама Аляксей Пракаповіч на прэс-канферэнцыі, прысвечанай падрыхтоўцы да першынства.

Начальнік упраўлення таксама адзначаў, што на чэмпіянат свету чакаецца каля 20 тысяч турыстаў у Мінск. Паводле яго слоў, такую колькасць гасцей удасца без праблем размясціць у беларускай сталіцы ў гатэлях і інтэрнатах розных катэгорый. «Мы жалезна можам размясціць 20 тысяч і яшчэ ў нас ёсць рэзерв прыкладна ў 5 тысяч месцаў», — сказаў Пракаповіч.

А навошта тады нам «Кемпінскі»? З-за чаго сыр-бор?

А тым часам кансалідуецца паціху і беларуская апазіцыя. Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька звярнуўся да структур беларускай палітычнай эміграцыі з заклікам «да паразумення і сумеснай работы». Лябедзька адзначае, што беларускія дэмакратычныя прадстаўніцтвы за мяжой — «такі ж факт, як і адсутнасць офісаў па рабоце з грамадзянамі краіны ў большасці рэгіёнаў Беларусі». «Прыйшоў час пазнаёміцца і паспрабаваць зразумець адзін аднаго і, магчыма, скаардынаваць сумесную работу. Бо мэты мы заяўляем адны і тыя ж», — падкрэслівае Лябедзька.

А Аргкамітэт святкавання Дня Волі 25 сакавіка і «Малады фронт» дамовіліся аб агульным зборы ўдзельнікаў акцыі.

Што з гэтага атрымаецца — паглядзім.



## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ДЗМІТРЫЙ БАРАНАЎ



Выканаўчы прадзюсер тэлеканала «Беларусь 1» Дзмітрый Баранаў будзе звольнены, паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

«Я чакаю канкрэтнага распараджэння на паперы. І яно будзе», — сказаў Давыдзька, каментуючы распараджэнне Аляксандра Лукашэнкі неадкладна звольніць асоб, вінаватых у скажэнні вынікаў галасавання на Нацыянальным тэлевізійным музычным праекце «Еўрафэст».

«Неадкладна — не значыць, што сёння. Усё будзе так, як сказаў прэзідэнт. Не сумнявайцеся», — заявіў Давыдзька. Ён не выключае, што акрамя Баранава будуць звольненыя і іншыя вінаватыя супрацоўнікі Белтэлерадыёкампаніі. Давыдзька таксама паведаміў, што працягвае працаваць спецыяльная камісія, якая «вызначае ступень віны ўдзельнікаў гэтых падзеяў». «Не хочацца, каб хтосьці агульна пацярпеў», — адзначыў старшыня Белтэлерадыёкампаніі. «Самае галоўнае, што справядлівасць перамагае, а мы займаемся падрыхтоўкай групы Litesound да «Еўрабачання», — дадаў ён.

Раней на нарадзе з удзелам кіраўніка дзяржавы па выніках правядзення фіналу «Еўрафэсту» першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў заявіў, што змяніць вынікі галасавання гледачоў на «Еўрафэсце» распарадзіўся прадзюсер Дзмітрый Баранаў. У інтэрв'ю «Народнай волі» Баранаў заявіў, што не даваў каманду падмяніць вынікі галасавання.

### АЛЯКСЕЙ ПРАКАПОВІЧ



Начальнік упраўлення фізічнай культуры, спорту і турызму Мінгарвыканкама Аляксей Пракаповіч лічыць, што Мінск не панясе фінансавых страт, калі чэмпіянат свету па хакеі 2014 года ўсё ж будзе адменены.

«Горад не панясе ніякіх страт, таму што ўсе тыя мерапрыемствы, якія тычацца будаўніцтва, рэканструкцыі аб'ектаў, ляжаць у генплане горада. Тыя карэкціроўкі, якія мы выносім у плане падрыхтоўкі да чэмпіянату свету да арэн, яны нязначныя. Гэта ўсё было ў планах горада. Бывае, едзеш у транспарце і чуеш размовы пенсіянераў, маўляў, вось уся краіна працуе і фінансуе гэты чэмпіянат свету. Гэтыя плёткі беспадстаўныя, паколькі ўся фінансавая частка задзейнічана ў адпаведнасці з генпланам», — цытуе Пракаповіча БелаПАН.

Што тычыцца прыбытку ад правядзення чэмпіянату, то, як сцвярджае чыноўнік, падлічыць яго складана. «Грошы, якія атрымае горад, — гэтую статыстыку будзем падбіваць, калі размесцім гасцей, забяспечым іх харчаваннем, дамо пералік паслуг. Але заўважу, што падобныя чэмпіянаты не бываюць стратнымі, за іх змагаюцца ва ўсіх краінах», — зазначыў Пракаповіч.

27 лютага шведскія СМІ са спасылкай на дырэктара Міжнароднай федэрацыі хакея (МФХ) па сувязях з грамадскасцю Шымона Шемберга распаўсюдзілі інфармацыю аб тым, што майскі кангрэс МФХ перагледзіць месца правядзення чэмпіянату 2014 года. Старшыня Беларускай федэрацыі хакея Яўген Ворсін гэтыя звесткі абверг.

### РАСЦІСЛАЎ ЮРЭНЯ



Менш чым праз год пасля выбуху ў сталічным метрапалітэне — 1 сакавіка — адчыніўся ўчастак дагляду рэчаў пасажыраў.

Начальнік КУП «Мінскі метрапалітэн» Расціслаў Юрэня паведаміў інтэрнэт-парталу TUT.BY, што ўчастак будзе функцыянаваць кругласутачна, пазменна ў ім будуць працаваць 11 чалавек. У брыгаду будуць уваходзіць аператар рэнтгенаграфічных сканэра, інспектар зоны дагляду і начальнік участка.

«Будзем даглядаць пасажыраў з вялікай ручной паклажай, тых, каго немагчыма дагледзець ва ўмовах вестыбюля. Там будзе знаходзіцца рэнтгенаграфічны сканэр, рамка-металашукальнік, ручныя металашукальнікі, — распавёў начальнік сталічнага метро. Паводле яго слоў, з'явяцца на ўчастку крыху пазней і камеры відэаназірання. Прычым яны будуць «з лічбавым доўгім архіваваннем», аднак пакуль гэта толькі планы.

Нагадаем, 11 красавіка 2011 года на станцыі «Кастрычніцкая» мінскага метрапалітэну прагрымеў выбух. У выніку чаго загінулі пятнаццаць чалавек, пацярпелі больш за трыста чалавек. Улады кваліфікавалі здарэнне як тэракт.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# НАШТО КАЗЕ БАЯН, А БЕЛАРУСУ ПАРЛАМЕНТ?

Сяргей НІКАЛЮК

**Моцная прэзідэнцкая ўлада, так, як яе трактуюць афіцыйна, несумяшчальная з ідэяй прававой дзяржавы.**




Беларусы дастаткова рацыянальныя, і таму галасуюць на выбарах не сэрцам, а розумам. Гэтая выснова ў аднолькавай ступені справядлівая як для прыхільнікаў «адзінага палітыка» (АП), так і для яго апанентаў. У свой час яшчэ класік сацыялогіі Макс Вебер вылучаў тры лады жыцця: уцёкі, прыстасаванне і авалодванне светам. Кожнаму ладу жыцця адпавядае свой тып рацыянальнасці. Уцёкі ад рэчаіснасці распаўсюджаныя сярод паслядоўнікаў індуізму і будызму, большасць жа беларусаў імкнецца да рэчаіснасці прыстасоўвацца, і толькі нешматлікія асобы спрабуюць ёй авалодаць.

Няцяжка здагадацца, што ў якасці базавага элементу беларускай рэальнасці выступае родная дзяржава. У тым, што яна аўтарытарная, не даводзіцца сумнявацца. Каб быць больш пераканаўчым, працытую выказванне ўлюбёнага аўтара: *«У нас очень сильная президентская власть, действительно, с элементами авторитаризма, в этом я всегда честно признавался. Такая у нас Конституция и законы в этот переходный период»*.

Аднак, у адпаведнасці з артыкулам 6 Канстытуцыі, «дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь здзяйсняецца на падставе яе падзелу на заканадаўчую, выканаўчую і судовую». І дзе тут месца для АП? Каб яго пабачыць, неабходна ўстаць на дыбкі і задраць галаву. Вось як сам АП апісвае сваё месца ў структуры дзяржаўнай улады: *«Есть судебная, законодательная и исполнительная ветви власти, над которыми, по Конституции, стоит президент, который их координирует, направляет, «сводит», «разводит» и так далее»*.

Пагадзіцеся, цудоўна. Чалавецтва вынайшла прынцып падзелу ўладаў, каб выключыць канцэнтрацыю ўсіх паўнамоцтваў у руках адной асобы. Інакш прававую дзяржаву не пабудуеш. Аднак гэта з пункту гледжання заходняй дэмакратыі. Што да яе беларускай варыяцыі, дык яна цудоўна сумяшчае ідэю прававой дзяржавы (артыкул 1) з трыма галінамі ўлады, *«над которыми, по Конституции, стоит президент»*.

## Дваццаць гадоў у афсайдзе

Калі б АП паспрабаваў атрымаць патэнт на такога кшталту «ўладацэнтрычную» канструкцыю, дык ён, хутчэй за ўсё, не здолеў бы гэта зрабіць. Савецкая канстытуцыя была пабудавана па такім жа прынцыпе, толькі роля каардынатара ў ёй належала не прэзідэнту, а генеральнаму сакратару. Пры жаданні можна капнуць глыбей. Канстытуцыя Мікалая II у гэтым сэнсе мала чым адрознівалася ад трох савецкіх. У сваю чаргу, паводле гісторыка Юрыя Півапарава, першая расійская канстытуцыя «рэалізавала стары план Міхаіла Сперанскага, які той прапанаваў яшчэ ў 1809 годзе. На замову Аляксандра I Сперанскі паспрабаваў сумясціць прынцып падзелу ўладаў і ўладацэнтрычнасць рускай гісторыі і культуры, дзе дзяржава — гэта ўсё. Ён не ўпісаў адну асобу — асобу імператара — у сістэму падзелу ўладаў, ён паставіў яго *над*».

Улічваючы ўсё сказанае вышэй, я б не рэкамендаваў успрымаць развагі АП пра пераходны перыяд сур'ёзна. Пераходны перыяд доўжыцца ўжо сотні гадоў, і за ўвесь гэты час ні адна з персон, што стаяць над галінамі ўлады, нават пальцам не паварушыла, каб паскорыць яго заканчэнне. Наадварот, усе падуладныя ім рэсурсы такія асобы накіроўвалі на пралангацыю пераходнага перыяду.

Гістарычным вынікам функцыянавання ўладацэнтрычнай канструкцыі сталася недастатковае развіццё ўсіх трох галінаў улады, што добра фіксуе грамадская думка. Звернемся да табліцы. Ужо першае апытанне НІСЭПД зафіксавала, што беларусы не ўскладаюць асаблівых спадзяванняў на выхад з крызісу на заканадаўчую і судовую ўлады. У лідарах у гэтым сэнсе апынулася ўлада выканаўчая (урад), аднак першыя прэзідэнцкія выбары ўсё расставілі па сваіх месцах.

Ва ўмовах сусветнага фінансавага крызісу 2009 года грамадскі запыт на прафесійных кіраўнікоў істотна павялічыўся, у той час як патрэба ў АП, які здольны толькі каардынаваць, зводзіць і разводзіць, істотна зменшылася. Што да заканадаўча-судовага тандэму, дык ён, калі ўжываць футбольную тэрміналогію, апынуўся «па-за гульнёй». Беларусы — людзі рацыянальныя, гэтак жа, як і АП, яны фармуюць свае погляды «ад жыцця», у якім ні заканадаўчая, ні судовая ўлады падстаў для спадзяванняў не даюць і ніколі не давалі.

## Наперадзе толькі Швейцарыя

Але адкуль вынікае, што «ўладацэнтрычная» канцэпцыя саступае ў эфектыўнасці класічнаму варыянту з падзелам трох галін улады? Каб адказаць на гэта пытанне, звернемся да ўжо знаёмага нам па папярэдніх «Азбуцы паліталогіі» эканаміста Дугласа Норта. У кнізе «Інстытуты, інстытуцыянальныя змены і функцыянаванне эканомікі» ён тлумачыць рэзкае разыходжанне ў эканамічнай магутнасці Англіі і Іспаніі, якое адбылося ў Новы час. Да XVI стагоддзя гэтыя краіны знаходзіліся на абсалютна параўнальных стартавых пазіцыях. Яны былі прыкладна роўныя па колькасці насельніцтва і структуры занятасці, абедзве здзяйснялі палітыку знешнепалітычнай экспансіі. Але ўжо да пачатку XIX стагоддзя Англія стала «майстэрняй свету», а Іспанія — адной з самых адсталых краін Еўропы.

Прычына такога разыходжання, паводле Норта, палягае ў тым, што ў XVI стагоддзі ў Англіі пытанне пра размеркаванне падаткаў патрапіла ў кампетэнцыю парламента, а ў Іспаніі ўлада караля была абмежавана картэсамі выключна фармальна. У выніку Іспанія, якая вывезла з калоніяў значна больш багаццяў, чым Англія, вельмі хутка растранжырыла свае скарбы. Каралі любілі марнаваць грошы калі не на войны, дык на будаванне ўласных рэзідэнцый. Няма ніякага сэнсу інвеставаць у эканоміку, калі кароль здольны ў любы момант канфіскаваць гэтыя інвестыцыі. У Англіі магчымасці кароны ў галіне вымання даходаў і іншай маёмасці былі істотна абмежаваныя парламентам, які ўвасабляў шляхту. Яна, маючы надзейную абарону сваёй уласнасці ад пасягання ўлады, магла здзяйсняць доўгатэрміновыя капіталаўкладанні, вынікам якіх і стаў значны эканамічны рост.

Невялікая рэмарка наконт рэзідэнцый: у прэзідэнта ЗША іх дзве, у прэзідэнта Расіі — больш за 20, і зараз будуюцца яшчэ некалькі. Калі б амерыканскі прэзідэнт вырашыў распачаць новае будаўніцтва без згоды Кангрэсу, дык такая ініцыятыва каштавала б яму датэрміновага вызвалення ад пасады з рэальнай перспектывай распачаць крымінальную справу.

Аднак вернемся на родную зямлю. У снежні 2009 года АП паставіў перад урадам задачу за апошні год пяцігодкі ўзняць сярэдні заробак да 500 долараў. Ён меркаваў, што выдаткі пры гэтым абмяжуюцца пабітымі насамі чальцоў ураду: *«Мы кровь из носа должны выполнить это наше обязательство перед народом до конца 2010 года и отчитаться перед Всебелорусским народным собранием — кризисы здесь в счет не берутся»*.

А дарэмна. Крызіс не прымусіў сябе доўга чакаць. Пра яго глыбіню сведчыць нядаўняе выказванне першага віцэ-прэм'ера ўраду Уладзіміра Сямашкі: «У нас катастрофа, калапс, сітуацыя яшчэ горш, чым у мінулым годзе. Калі б не было падпісана пагадненне пра продаж «Белтрансгазу» ў пакеце, дык цана б на газ для Беларусі была большай за 300 долараў за тысячу кубічных метраў».

Дзе пры гэтым была заканадаўчая ўлада? Прыкладна там жа, дзе іспанскія картэсы ў XVI–XIX стагоддзях. А між тым сярэднетэрміновыя наступствы ініцыятыў АП лёгка пралічваюцца. У студзені-лютым 2011 года сумарная намінальная заработная плата занятага ў эканоміцы насельніцтва да аб'ёму нацыянальнага ВУП складала 51,4 працэнта. Гэта другі ў Еўропе паказчык пасля Швейцарыі! За год да таго паказчык быў на 12 пунктаў ніжэйшы. Цяжка ўявіць сабе краіну, эканоміка якой вытрымала б такі ўзровень папулізму.

## Пра якасць прагназавання

Апошнім часам мы ўсё часцей чуем пераканаўчыя заявы, што мы *«сохраним наш суверенитет, чего бы это нам не стоило»*. Суверэнітэт — задавальненне нятаннае. З гэтым не паспрачаешся, аднак для яго захавання ў першую чаргу неабходна правільна вызначыць крыніцы асноўных пагроз. На маю думку, тут па-за канкурэнцыяй сама беларуская дзяржава. Катастрофа і калапс 2011 года, пра якія так пераканаўча казаў Сямашка, — толькі адзін з прыкладаў дэструктыўнай дзейнасці дзяржавы, якая функцыянуе па законах *пераходнага перыяду*.

Важная асаблівасць такога функцыянавання — няздольнасць *каардынатара*, які стаіць над трыма галінамі ўлады, ацаніць хаця б бліжэйшыя наступствы сваіх ініцыятыў. Не можа ён разлічваць і на дапамогу з боку сваіх штатных памочнікаў. Яны дзейнічаюць у межах агульнай логікі, якая не дапускае канкурэнцыі ў любым выглядзе, у тым ліку і канкурэнцыі ацэнак прынятых рашэнняў. У якасці прыкладу працытую артыкул памочніка прэзідэнта па эканамічных пытаннях Сяргея Ткачова «Паўней пазнаючы мінуўшчыну, раскрываем сэнс будучыні»: «Да гэтага часу мы ўжо назапасілі новы вялікі вопыт прагназавання. Навучыліся распрацоўваць гадавыя, сярэднетэрміновыя і доўгатэрміновыя прагнозы».

У чым тут цікавостка? У даце публікацыі. Пра сваю здольнасць раскрываць сэнс будучыні Ткачоў паведаміў чытачам «Советской Белоруссии» 24 лютага 2011 года — за некалькі тыдняў да пачатку першай фазы катастрофы і калапсу. І вось якімі словамі ён адзначыў поспехі эканамічнай мадэлі, што была створана пры ягоным непасрэдным удзеле: «Вынікі нашага развіцця ў адпаведнасці з прынятай намі мадэллю, у тым ліку і ў супастаўленні з нашымі суседзямі і іншымі краінамі, вядомыя. Таму не буду спыняцца на гэтых паказчыках».

Вынікі вядомыя, але, у адрозненне ад чытачоў «Советской Белоруссии», у чытачоў НЧ яшчэ будзе магчымасць неаднаразова разгледзець іх праз прызму азбучных паліталагічных ведаў.

**З КІМ ВЫ ЗВЯЗВАЕЦЕ СПАДЗЯВАННІ НА ВЫХАД БЕЛАРУСІ З ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗІСУ?**

| Варыянт адказу | 04'92 | 11'94 | 06'09 |
|---|---|---|---|
| З прэзідэнтам | — | 49 | 36 |
| З урадам | 33 | 17 | 34 |
| З Вярхоўным Саветам / З Нацыянальным сходам | 14 | 9 | 5 |
| З судовай сістэмай | 5 | 7 | 2 |

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# АЛЯКСАНДР КРУТЫ — ТАКСАМА ПАЛІТЫЧНЫ

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Еўрапейскія ды расійскія крытэры даюць падставы сцвярджаць — Аляксандр Круты асуджаны па палітычных матывах.**

Аляксандр Круты — адзін з трох спрэчных кандыдатаў на палітвязня (яшчэ два — Малчанаў ды Чыгілейчык), наконт якога ўжо 5 месяцаў праваабаронцы не могуць вынесці вердыкт — палітычны ці не. Стаць «палітычным» — гэта не проста займець прыгожы статус. Пра «палітычных» увесь час гавораць у СМІ, абмяркоўваюць праваабаронцы, іх вызвалення патрабуюць замежныя палітыкі, яны становяцца закладнікамі палітычнага гандлю з магчымасцю выйсці раней (а часам і пазней — тут ужо як пашанцуе) за рэальны тэрмін. Палітвязень атрымоўвае галоўны прывілей сучаснага інфармацыйнага грамадства — заўжды быць на слыху, у цэнтры ўвагі.

Статус палітвязня вызначаецца паводле пэўных крытэраў. У Еўропе такія крытэры распрацавалі эксперты Савета Еўропы ды «Міжнароднай Амністыі». На жаль, беларуская праваабарончая супольнасць яшчэ не акрэсліла нацыянальныя крытэры, таму нам даводзіцца карыстацца крытэрамі суседзяў-расійцаў, якія супольна ўжо выпрацавалі адзіны механізм вызначэння «палітычных спраў». Не будучы юрыстам, не магу замахвацца на правядзенне юрыдычнай экспертызы справы Крутога, але грамадская экспертыза пад сілу і журналісту.

Паводле «Міжнароднай Амністыі» (МА), палітычным вязнем называецца любы зняволены, у справе якога прысутнічае важкі палітычны элемент — матывацыя дзеянняў вязня, самі дзеянні ці прычыны, што пабудзілі ўлады адправіць вязня за краты. Аляксандра Крутога абвінавачваюць у тым, што ён выліў шкляначку з мачой на галаву галоўнаму лекару шпіталя, дзе ягоная дачка праходзіла лячэнне пасля тэракта ў мінскім метро. Праўда, назваць гэта лячэннем цяжка — паводле Інэсы Крутой, пасля рэабілітацыі ў шпіталі яна, недалечаная, некалькі разоў падала дома (падчас выбуху ашчэпкі патрапілі дзяўчыне ў нагу, зараз яна перасоўваецца з мыліцай), што не магло не выклікаць гневу бацькі на гора-лекараў.

Праз закрыты суд ды забарону для адвакатаў гутарыць з прэсай цяпер складана праясніць абставіны таго здарэння. Нават калі парушыць прэзумпцыю невінаватасці і прыняць пазіцыю абвінавачання, што Круты сапраўды выліў гэтую злашчасную шклянку мачы на лекара, ці можна лічыць гэта замахам на канкрэтнага чалавека? Артыкул 339 «Хуліганства» ў Крымінальным кодэксе адносіцца да раздзелу «Злачынствы супраць грамадскага парадку і грамадскай маральнасці», а не да раздзела «Злачынствы супраць чалавека» ці «Злачынствы супраць асабістай свабоды, гонару і годнасці», што ўскосна пацвярджае — гнеў Крутога быў скіраваны на лекара як прадстаўніка дзяржавы. Гэта была спецыфічная форма пратэсту агулам супраць непрафесіяналізму і абыякавасці медыкаў, якія з'яўляюцца часткай дзяржаўнай сістэмы, а таму ўвасабляюць бяздушнасць дзяржавы да здароўя дачкі вязня.

Пра прычыны, якія пабудзілі ўлады адправіць Крутога за краты, нам дазваляюць меркаваць наступныя факты. Паводле следства, мужчына «пахуліганіў» 17 жніўня, крымінальная справа быццам бы была распачата 19 жніўня. Фактычна месяц, з 19 жніўня па 18 верасня, Аляксандр Круты знаёміцца з матэрыяламі справы пра выбух (паводле брата Крутога, з матэрыяламі справы азнаёміліся ўсяго 7 пацярпелых ды іх прадстаўнікоў), наведвае судовыя пасяджэнні, штодня праходзіць фэйс-кантроль міліцыі і спецназу, задае ў судзе вострыя пытанні, хадайнічае пра адкладанне судовага працэсу над Канавалавым і Кавалёвым, раздае журналістам інтэрв'ю на ганку суда. Пасля чарговага пасяджэння 20 верасня Крутога нечакана затрымліваюць — аказваецца, днём раней яго аб'явілі ў вышук у межах яго ўласнай крымінальнай справы.

Напрошваецца выснова — улады вырашылі пасадзіць Крутога менавіта пасля таго, як ён пачаў прымаць актыўны ўдзел у судзе пра выбух ды, маючы багата інфармацыі з 565 тамоў крымінальнай справы, мог парушыць хаду кімсьці ўжо прадуманага судовага працэсу. Дарэчы, па згадках Інэсы, бацька казаў ёй, што ў крымінальнай справе было 567 тамоў, але з апошнімі двума азнаёміцца яму не далі і нават іх не паказалі. Пазней у судзе іх таксама не агучвалі. Можа, нехта пабаяўся, што Круты публічна спытаецца, дзе ж гэтыя таямнічыя два тамы і што ў іх напісана?

Крытэры Савета Еўропы ды расійскіх праваабаронцаў дэталізуюць азначэнне «палітвязня». Не пералічваючы ўсе, назаву тыя два, пад якія, відавочна, патрапляе справа Крутога: працягласць і ўмовы ўтрымання несуразмерныя са здзейсненым правапарушэннем; пераслед вязня ажыццяўляецца з парушэннем працэсуальных гарантый. Суд прызнаў Аляксандра Крутога псіхічна нездаровым і прызначыў лячэнне, аднак вязень і пасля суда 6 снежня працягвае ўтрымлівацца ў турме. Крутога павінны лячыць у Навінках, аднак у гэту медычную ўстанову яго адвозілі толькі на правядзенне псіхіятрычнай экспертызы. Увесь іншы час Круты быў ці то ў ізалятары Жодзіна, ці то на Валадарцы (дзе знаходзіцца і цяпер).

Але ж прызнанне яго нездаровым пасяліла сумневы наконт яго псіхічнага стану сярод незалежных праваабаронцаў ды грамадскіх актывістаў. Дый наколькі адпавядае дзеянням Крутога заведзеная крымінальная справа за асабліва цынічнае хуліганства з перспектывай трох гадоў турмы? На маё несудзейскае вока, тут болей бачыцца адміністрацыйная справа за «дробнае хуліганства» ды штраф ці арышт на 15 сутак.

Працэсуальныя парушэнні ў справе Крутога таксама хапае. Паводле маніторынгу арганізацыі «Платформа», цягам болей як двух месяцаў, ажно да самага суда 6 снежня, Круты заставаўся ў статусе «падазронага». Крымінальна-працэсуальны кодэкс гаворыць, што праз 10 дзён пасля арышту падазронаму ці прад'яўляецца абвінавачанне, ці яго вызваляюць. Крутому ў належны час абвінавачанне не прад'явілі, але і з-за кратаў не адпусцілі. Следчыя дзеянні і псіхіятрычная экспертыза праводзіліся з чалавекам, якога нават ні ў чым не вінавацілі.

Калі б справа Крутога была вядомая расійскім праваабаронцам, «Міжнароднай Амністыі» ды Савету Еўропы, магчыма, там бы яго прызналі «палітычным» ды пільна паставіліся б да ягонай справы. Чакаць, пакуль беларусы вызначацца са сваімі крытэрыямі нельга — Мінскі гарадскі суд перанакіраваў справу Крутога на перагляд, які адбудзецца цягам месяца. Менавіта цяпер, на стадыі прыняцця рашэння, а не абскарджваючы несуцяшальныя вынікі, мы маем шанец выхапіць Аляксандра Крутога з багны беларускага правасуддзя.



Улады вырашылі пасадзіць Крутога пасля таго, як ён пачаў прымаць актыўны ўдзел у судзе па выбуху 11 сакавіка ды, маючы багата інфармацыі, мог парушыць хаду судовага працэсу

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# САМАЕ СЛАБАЕ ЗВЯНО



**По дадзеных гандлёвага балансу аб'ём знешняга гандлю таварамі за 2011 год склаў 86,1 млрд. долараў, у тым ліку экспарт — 40,3 млрд. долараў, імпарт — 45,8 млрд. долараў.**

Вартасны памер экспарту ў параўнанні з 2010 годам па разліку ў бягучых коштах павялічыўся на 59,4%, або на 15 млрд. долараў, імпарту — 31,1%, або на 10,9 млрд. долараў.

У выніку апераджаючага тэмпу росту экспарту над імпартам велічыня адмоўнага сальда ў цэлым зменшылася з 9,6 да 5,45 млрд. долараў. На 4,15 мільярда! Пры гэтым паказнікі дынамікі экспарту і імпарту ў гандлі з рознымі краінамі аказаліся вельмі рознымі. Напрыклад, у гандлі з краінамі СНД, на якія прыпадае 56% агульнага знешнегандлёвага тавараабароту, адмоўнае сальда павялічылася з 6,9 да 8,6 млрд. долараў.

Яшчэ больш пагоршыліся ўмовы і вынікі знешняга гандлю Беларусі з краінамі Мытнага саюза (Расіяй і Казахстанам), на якія выпадае 82,7% тавараабароту Беларусі. На гэтым «вектары» адмоўнае сальда павялічылася з 8,1 да 10,7 млрд. долараў.

У гандлі з краінамі, што месцяцца за межамі СНД, сітуацыя такая: тавараабарот з імі павялічыўся да 38,5 млрд. долараў (на 47,9%), у тым ліку, экспарт — да 20,8 млрд. долараў (на 78,5%), а імпарт да 17,7 млрд. долараў (на 23,1%). Дзякуючы перавышэнню тэмпаў росту экспарту адмоўнае сальда ў 2,7 млрд. долараў зноў стала дадатным у памеры 3,13 млрд. долараў.

Бліскучы вынік, які прывёў да ўзнікнення знешняга падабенства сітуацыі пачатку нулявых гадоў. Тады, дзякуючы інтэграцыйным трызненням, Расія стварала такія ўмовы пастаўкі нафты, што продаж нафтапрадуктаў на Захад дазваляў Беларусі амаль выходзіць на дадатнае сальда знешняга гандлю.

Але сальда ў знешнім гандлі таварамі застаецца істотным і адмоўным, нягледзячы на значнае перавышэнне тэмпаў росту экспарту над імпартам. Прычым экспарт павялічвалі ў значнай ступені штучна, а імпарт скарачалі коштам дэвальвацыі нацыянальных грошай.

Як паведамляе Белстат, павялічэнне вартасных памераў экспарту і імпарту тавараў у 2011 годзе было абумоўлена як падвышэннем сярэдніх цэн, так і фізічных аб'ёмаў паставак. У параўнанні з 2010 годам сярэднія кошты экспарту павысіліся на 23,1%, імпарту — на 13,2%. Таварная маса экспарту павысілася на 29,5%, імпарту — на 15,8%.

Такім чынам, кан'юнктура для Беларусі склалася добрая па ўсіх таварных групах — інвестыцыйных, спажывецкіх, прамежкавых. Асабліва добрыя ўмовы склаліся ў гандлі энергетычнымі таварамі. Як паведамляе Белстат, у параўнанні з 2010 годам сярэднія кошты экспарту энерганосьбітаў павысіліся на 35,8%, а фізічны аб'ем паставак павялічыўся на 51,3%. Больш чым напалову!

Рост коштаў на энерганосьбіты можна лічыць вынікам шматлікіх мінулагодніх рэвалюцый і іншых падзей у нафтаздабываючых краінах. Цяжка разлічваць на паўтарэнне нечага падобнага ў сярэднетэрміновай перспектыве. Адначасова нельга чакаць і такога магутнага падвышэння экспарту энерганосьбітаў. Колькі б іх не было ў Расіі, але ў кожным гаспадарчым годзе нават гэта мора мае свае колькасныя абмежаванні. Павялічэнне экспарту энерганосьбітаў хоць на Усход, хоць на Захад, наткнулася на межы сваёй эканамічнай мэтазгоднасці — умовы імпарту і экспарту энерганосьбітаў вызначаюцца агульнай неэфектыўнасцю яе эканомікі.

Асабліва выразна гэты выяўляецца па групе так званых прамежкавых тавараў, да якіх належаць энерганосьбіты, сыравіна, матэрыялы і камплектуючыя. На вытворчасць адзінкі таварнай вартасці беларускай эканомікі трэба энерганосьбітаў ды іншага значна больш, чым канкурэнтам.

У гэтым слабасць беларускай эканомікі. Чым больш растуць яе памеры, тым большая млявасць ахопілвае прадпрыемствы.

У мінулым годзе была зроблена стаўка на падвышэнне колькасных паказнікаў, дасягненне якіх павінна было адкрыць магчымасці якаснага росту. Нічога гэтага не адбылося.

Лепш сказаць, цуду не адбылося, бо для яго не было абсалютна ніякіх рэальных перадумоў. Хіба толькі прамовы палітыкаў ды розных банкіраў.

На жаль, мала хто звяртае ўвагу на лаканічнае тлумачэнне малой эфектыўнасці знешняга гандлю, якое Белстат уключае ў кожную сваю справаздачу: «асноўнымі крыніцамі адмоўнага сальда знешняга гандлю таварамі з'яўляюцца экспартна-імпартныя аперацыі з прамежкавымі таварамі (энерганосьбіты, сыравіна, матэрыялы, камплектуючыя)». На энергетычныя тавары прыпадае 49,3 вартаснага аб'ему экспарту і 54,1% імпарту прамежкавых тавараў.

Улічваючы рэальныя дасягненні і велізарныя высілкі па шляху да іх, не застаецца нічога іншага, як працытаваць класіка, які параўноўваў паэзію са здабычай радыю: «*В грамм добыча, в год труды...*» З той розніцай, што паэт выкарыстоўвае «слоўную руду». А нашы марнатраўцы псуюць на выраб дрэнных рэчаў выдатныя і дэфіцытныя даброты.

## 11 САКАВІКА, НАДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Камедыя «Больш чым сябар» (ЗША).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма аб турызме.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.15** Да цешчы на бліны.
**10.50** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна). Заключная серыя.
**12.10** Фільм «Рабыня кахання» (СССР).
**14.05** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.25** Відэафільм АТН «Трынаццаць галасоў Воранаўскага аргана» цыклу «Зямля беларуская».
**15.40** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**16.30** Музычная камедыя «Знаёмства з Маркам» (ЗША).
**18.10** Суперлато.
**19.00** Рамантычная гісторыя «Вялікія надзеі» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Меладрама «PS. Я кахаю цябе» (ЗША).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** Фільм «Дзяўчына без адрасу».
**14.25** Фільм «З любімымі не раставайцеся».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт Ірыны Алегравай у Алімпійскім.
**17.30** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вялікая розніца».
**22.15** Фільм «Генсбур. Каханне хулігана».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** Фільм «Каханне ў вялікім горадзе 2». Расія, 2010 г.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Адпачынак прадстаўляе: самае смешнае».
**10.10** «Вялікі сняданак».
**10.50** Фільм «Гадзіны». ЗША-Вялікабрытанія, 2002 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** Фільм «Мядовы месяц». СССР, 1956 г.
**15.15** Ток-шоу «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Мінулай ноччу ў Нью-Йорку». ЗША-Францыя, 2009 г.
**22.30** «Прафесійны бокс».
**23.25** Фільм «Закахайся ў мяне, калі адважышся». Францыя-Бельгія, 2003 г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.10** Размова са святаром.
**07.20** Прыступкі Веры.
**07.35** Таямніца душы.
**08.00** Кожны мае права быць розным.
**08.30** Лірычная камедыя «Дзяўчаты» (СССР).
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Школа рамонту.
**11.25** Вышэй за дах.
**12.00** Шоў «Інтуіцыя».
**13.10** Бухта капітанаў.
**13.45** Кінаспробы.
**14.15** Дакументальны цыкл «Вышэйшая мера...».
**15.10** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету ў закрытых памяшканнях. Дзень 3-і. Прамая трансляцыя.
**15.20** Біятлон. Чэмпіянат свету. Рупольдзінг (Германія). Гонка з агульнага старту. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Біятлон. Чэмпіянат свету. Рупольдзінг (Германія). Гонка з агульнага старту. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.15** Лірычная камедыя «Дзяўчаты» (СССР).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**22.15** Спорт-кадр.
**23.00** Меладрама «Непрыстойная прапанова» (ЗША).
**01.05** Шоў «Інтуіцыя».

### РТР-Беларусь

**05.00** Дакументальны фільм «Флот».
**05.50** Праграма «Смачны свет».
**06.35, 01.50** Мастацкі фільм «Скандальнае здарэнне».
**07.45** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Ведаем рускую».
**10.10** Праграма «Даведнік».
**10.40** Тэлесерыял «Чэрчыль».
**13.30** Дак. серыял «Доказы віны».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток – шоў «Яшчэ не разам».
**16.10, 21.00** Тэлесерыял «Аперацыя «Супермаркет».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**23.00** Праграма «Паўночнікі».
**23.30** Мастацкі фільм «Сабака Паўлава».
**01.00** Праграма «Навіны Садружнасці. Культура».
**04.20** Праграма «Даведнік».

### Discovery CHANNEL

**05.00** Вокамгненныя катастрофы.
**05.55, 01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50, 12.20, 00.55** Разбуральнікі легенд.
**07.45, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Залатая ліхаманка: Аляска.
**09.35** Вугаль.
**10.30** Выжыць разам.
**11.25** Сусвет Стывена Хокінга.
**13.15** Скрыўленне часу.
**14.10** Будаўнічая дапамога.
**15.05** Вышэй за цунамі. Дух японскага адраджэння.
**15.30** Узнаўленне Японіі.
**18.30** Ад Чарнобыля да Фукусімы.
**20.00** Хлопцы з гарматамі.
**21.00** Я збег: сапраўдныя ўцёкі з турмы.
**22.00** Марыхуана ў законе.
**23.00** Працяк за мяжой.
**00.00** Рачныя монстры.
**03.10** Discovery: Праект «Зямля».
**04.05** Мега-будоўлі.

### EUROSPORT

**00.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб.
**02.30** Біятлон: Чэмпіянат свету. Рупольдзінг - жаночая эстафета.
**10.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Монца - Кваліфікацыйны раўнд.
**10.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Монца - Размінка.
**11.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны. Слалам.
**12.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Осла - HS 128. Кваліфікацыя.
**13.00** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Осла - Жанчыны. 30 км. Класіка.
**14.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Слалам Мужчыны. 2-я спроба.
**15.15, 18.00** Біятлон: Чэмпіянат свету. Рупольдзінг.
**16.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Осла - HS 134.
**18.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Монца.
**19.45** Веласпорт: Парыж - Ніца.
**21.00** Тэніс: Турнір WTA. Дзень 5.
**22.45** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат свету ў памяшканні. Стамбул.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 16 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.00** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.15** «Дзеці ксяндза Шаплевіча», дак. фільм.
**09.45** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.25** «Таямніца Нарыльскага паўстання», дак. фільм, 2005 г., Украіна.
**12.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**12.25** ПраСвет.
**12.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 6 серыя.
**13.00** «Станіслаў Багданкевіч».
**13.15** Калыханка для самых маленькіх.
**13.45** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.10** «Піянеры зменаў. ЗША», дак. фільм, 2009 г., Францыя: ч. 2.
**15.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.15** «Маўчанне Лорны», маст. фільм, 2008 г., Германія–Францыя–Італія–Бельгія.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял: 43 серыя.
**18.05** Прыватная калекцыя.
**18.30** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** Вагон.
**19.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 13 серыя.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** «Менск ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**20.35** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 6 серыя.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт.
**22.05** Фільматэка майстроў: «Фаду», дак.-музычны фільм, 2007 г., Партугалія.
**23.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.
**23.40** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.20** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ААО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______

Кассир Всего ______

ВЫБАР

# ДВА ГАДЫ ЯНУКОВІЧА

**25 лютага споўнілася два гады знаходжання Віктара Януковіча на пасадзе прэзідэнта Украіны. Пра вынікі яго кіравання журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім палітолагам Юрыем Дакукіным.**



***— 62 працэнта грамадзян Украіны незадаволеныя дзейнасцю прэзідэнта. Такі вынік апытання, зробленага напярэдадні «юбілею» па замове аўтарытэтнага нямецкага радыё «Deutsche Welle». Яшчэ амаль трацiна рэспандэнтаў заявілі, што «вельмі незадаволеныя». Адкуль такая сумная для Януковіча арыфметыка?***

— Безумоўна, галоўным фактарам з'яўляецца эканоміка. Крызіс ёсць крызіс. Янукoвіч, як паказаў вопыт, сапраўды добры мэнэджар, аднак дасягнуць параметраў 2006 года, калі пры ўладзе быў Юшчанка, ён у сілу аб'ектыўных чыннікаў не здольны. Тады сярэдні заробак жыхароў буйных гарадоў дасягаў 500 долараў, што цяпер здаецца фантастычным. Шэраг передвыбарных абяцанняў лідара Партыі рэгіёнаў на праверку аказаліся голым папулізмам. Казаць пра іпатэку ў 7%, інстытут сямейнага лекара, 5% бюджэтных месцах у ВНУ, кампенсацыі працадаўцам пры працаўладкаванні моладзі, выдачы кватэр бюджэтнікам, якія падпісалі кантракты на 20 гадоў, не даводзіцца. Плюс аўтарытарныя тэндэнцыі. Януковіч унёс змены ў 32 закона, якія вызначаюць паўнамоцтвы ўлады, замкнуўшы ўсю сістэму кіравання краінай на сабе. Ён у выніку і адказвае за ўсё.

***— Як у Партыі рэгіёнаў ацэньваюць апошнія два гады?***

— Галоўнай заслугай украінскага прэзідэнта яго паплечнікі лічаць тое, што Віктару Януковічу ўдалося ўтрымаць краіну на годным узроўні ў няпростых умовах сусветнага эканамічнага крызісу. Яны ахвотна нагадваюць, што ў 2009 годзе падзенне ВУП склала 15 працэнтаў. Іншымі словамі, Януковіч і яго ўрад здолелі пазбегнуць рызыкаў ператварэнні Украіны ў другую Грэцыю, і нават у іх атрымалася аднавіць эканамічны рост. Сярод дасягненняў Януковіча таксама лічаць палітычную стабільнасць: усе інстытуты дзяржавы функцыянуюць, аднаўлена адміністратыўная сістэма. Януковіч, па меркаванню яго прыхільнікаў, не даў развіцца супрацьстаянню Захад—Усход. Як прыклад, ён наклаў вета на закон пра выкарыстанне 9 мая чырвонага сцяга як дзяржаўнага, супакоіўшы заходнюю ўкраінскую грамадскасць. Нарэшце, спасылаюцца на выніі апытання грамадскай думкі. Калі б прэзідэнцкія выбары праходзілі ў лютым гэтага года, Віктар Януковіч стаў бы пераможцам першага тура. Аднак пры гэтым праўрадавыя эксперты не жадаюць прызнаць, што, паводле вынікаў апытання, Януковіч на прэзідэнцкіх выбарах у першым туры набраў бы толькі 16% галасоў. Нават Юшчанка, якога ўсе лічаць нядахам, праз два гады прэзідэнцтва меў вышэйшы рэйтынг.

***— Што думае апазіцыя наконт таго, што ўладзе ўдалося ўтрымаць эканоміку ў рамках пазітыўных макраэканамічных паказнікаў, навесці дысцыпліну ў вертыкалі і г.д.?***

— Факт таго, што рост эканомікі мае месца, прызнаецца. Аднак звяртаецца ўвага на тое, што практычна ніхто, адпаведна тым жа сацыялагічны апытанням, не адчуў гэта на сваёй кішэні. Што да кіраўнічай дысцыпліны, то ў адказ прыводзяцца дадзеныя самой адміністрацыі прэзідэнта — сёння не выконваецца каля 40% указаў кіраўніка дзяржавы. Зрэшты, апазіцыя прызнае, што двухгодка Януковіча мела нейкі пазітыў. Дзякуючы прынятаму ў апошні час пакету антысацыяльных рэформаў у краіне пачаўся працэс фармавання грамадзянскай супольнасці. Гэта штосьці новае ў параўнанні з часамі аранжавай рэвалюцыі. Новыя грамадзянскія ініцыятывы мала вераць палітыкам і дамагаюцца канкрэтных мэтаў.

***— Януковіч ішоў на выбары, будучы заўзятым апанентам празаходняй знешняй палітыкі аранжавых. Якія тут вынікі?***

— У знешняй палітыцы прэзідэнт Украіны адназначна выканаў сваё галоўнае абяцанне — адначасова... аднавіў і замацаваў пазаблокавы статус краіны. Але гэта дзіўны нейтралітэт, які грунтуецца на праблемах з суседзямі. Украінскі прэзідэнт не змог наладзіць адносіны з Расіяй. Масква адмаўляецца пераглядзець газавы кантракт, які Кіеў лічыць нявыгадным. Мы назіраем перыяд спрэчак, якія прывялі да развязвання адкрытых гандлёвых войнаў, напрыклад «сырнай». Адносіны ж з Еўрапейскім саюзам перажываюць перыяд астуджэння. Гэта выклікана перш за ўсё працэсам па справе экс-прэм'ера Юліі Цімашэнка. У выніку інвестыцыйная прывабнасць дзяржавы зьмяншаецца, а перамовы з МВФ праваленыя. З'явіўся нават тэзіс пра тое, што ва Украіне наогул адсутнічае канцэптуальная знешняя палітыка. Замест гэтага сёння ў галіне замежнай палітыкі ёсць толькі манеўры, закліканыя ўтрымаць сітуацыю ўнутры краіны пад кантролем.

***— Якраз напярэдадні двухгоддзя кіравання Януковіча быў вынесены прысуд аднаму з апазіцыйных лідараў Юрыю Луцэнку, які атрымаў 4 гады турмы. Луцэнка ў сваёй заключнай прамове ў судзе нават сказаў, што яго адмыслова засудзілі да ўгодкаў кіравання Януковіча ў якасці своеасаблівага падарунку прэзідэнту. Ці паўплывалі працэсы над апазіцыяй на папулярнасць Януковіча?***



— Справы Цімашэнка і Луцэнкі сталі ключавымі момантамі, дэстабілізуючымі фактарамі ва ўнутранай і знешняй палітыцы Януковіча, пагоршыўшы імідж прэзідэнта не толькі за межамі краіны, аднак таксама ўнутры яе. Хіба можа абывацель паверыць у тое, што той жа Луцэнка, як малюе яго афіцыёз, жудасны злачынец, калі ўсё, што на яго накапалі, — працаўладкаванне асабістага шафёра на цёплае мястэчка і занадта шыкоўная імпрэза з нагоды дня міліцыі? Гэта пасля таго, як адзін з папярэдніх дырэктараў украінскага МУС займаўся тым, што ўласнаручна адразаў галаву журналісту Гангадзэ.

***— Пасля абрання Януковіча прэзідэнтам прайшло толькі два гады, у той час як тэрмін яго паўнамоцтваў складае пяць гадоў. Што можа адбыцца ў наступныя тры?***

— Пакуль казаць пра тое, што нешта кардынальна зменіцца, рана. Сімвалічным з'яўляецца, па меркаванню экспертаў, нядаўні перанос працоўнага кабінета Віктара Януковіча ў асабістую рэзідэнцыю «Межигорье» пад Кіевам. Паколькі цяперашняя рэзідэнцыя — былы ўрадавы санаторны аб'ект — была аформлена на Януковіча з пунктю закона не вельмі празрыста, слова «Межигорье» стала сімвалам карупцыі. Таму пераезд у «Межигорье» паказвае, наколькі кіраўнік дзяржавы адарваны ад рэальнасці. Адпаведна, ёсць меркаванне, што, прыватызаваўшы ўладу, Януковіч пойдзе шляхам Лукашэнкі і Пуціна. І апошнія заявы чальцоў прэзідэнцкай адміністрацыі, якія разважаюць пра перспектывы сяброўства Украіны ў Мытным Саюзе, кажуць на карысць гэтай версіі. Але, з іншага боку, Януковіч дабіўся адназначна сур'ёзнага прарыву ў адносінах з Еўрасаюзам. Менавіта ён, а не яго папярэднік Віктар Юшчанка, здолеў практычна падыйсці да працэсу падпісання дамовы пра зону свабоднага гандлю і дамовы пра асацыяцыю з ЕС. Дастаткова амніставаць Юлію — і дамовы, якія адкрываюць Украіне дарогу ў ЕС, будуць падпісаныя. Таму ад прагнозаў наконт будучыні прэзідэнцтва Януковіча лепш устрымацца. Як мінімум да вынікаў выбараў у парламент увосень.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Дзяржавы-сябры ЕС ужо даўно спрабуюць унесці Чыжа ў «чорны спіс» з-за падтрымкі ім рэжыму Лукашэнка. Але гэтыя спробы заўсёды блакаваліся якой-небудзь дзяржавай. Па меркаванні беларускай апазіцыі, пагроза візавых санкцый і замарожвання актываў за мяжой з'яўляецца лепшай формай уплыву на рэжым у Мінску. Уключэнне Чыжа ў спіс узмацніла б магчымасці дэмакратызацыі Беларусі, паведаміла ў інтэрв'ю газеце дыпламатычная крыніца. Шкада, што славенскія ўлады гэтага не разумеюць. Зараз Славенія рыхтуецца знішчыць палітыку ЕС у дачыненні да рэжыму Лукашэнка за 150 мільёнаў еўра. Мінск павінен быць у захапленні, а палітычныя зняволеныя павінны разумець, што для Еўропы бізнэс важней, чым каштоўнасці і правы чалавека.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Гэта верх наіўнасці думаць, што ўсё, што адбывалася вакол «Еўрафэста», не было вядома пакараным міністрам. Дый пакаралі іх не за тое, што ашукалі, а за тое, што «брудна працавалі», лічаць мясцовыя назіральнікі. Усё ў Беларусі круціцца вакол інтарэсаў і распараджэнняў аднаго чалавека, якімі б недарэчнымі яны ні былі. За шматлікія гады чыноўнікі так шмат пачалі хлусіць, што па многіх пытаннях ужо не валодаюць праўдзівай карцінай. Пры гэтым не сумняваюцца ў сваёй беспакаранасці. Праўда, як паказвае гісторыя з Ланской, папакутаваць у выпадку «бруднай» працы можа той, хто і зусім не прымаў ніякіх рашэнняў.

**«Независимая газета» (Расія)**

У сілу дадатнага сальда знешняга гандлю ЕС з Беларуссю, якое склала ў 2011 годзе 6 мільярдаў еўра, Еўропа ператварылася ў найбуйнейшага саюзніка сістэмы Лукашэнкі і працягвае дапамагаць ёй заставацца на плыву. Таму неабходны мэтанакіраваныя меры, якія прама закрануць рэжым і прычыняць як мага меншую шкоду грамадзянам. Жаданы эфект здольныя прынесці эканамічныя санкцыі супраць строга вызначаных фірмаў і пасярэднікаў. У Беларусі маецца толькі жменька фактычных алігархаў, як правіла, былых супрацоўнікаў КДБ, якія ўладжваюць важныя для рэжыму экспартныя дамовы, прыцягваюць у краіну замежны капітал і праводзяць прыватызацыю, імкнучыся знайсці пакупнікоў на Захадзе.

**«Financial Times Deutschland» (Германія)**

У адрозненне ад Пуціна, Лукашэнка жыве пад акампанемент пратэстуючай плошчы з першых дзён свайго палітычнага шчасця. Крытэры, якімі ён кіруецца ў стаўленні да яе, кідаючыся ад АМАПаўскай апантанасці да кплівай грэблівасці, пераканаўча не сфармуляваны. Але, як высвятляецца, і тое, і іншае яму кожны раз сыходзіць з рук. Можа, менавіта таму, што ён вельмі добра ведае: каля 50-ці ў яго ёсць і так, што насамрэч не аспрэчыш, а колькі трэба, ён дапіша — у залежнасці ад настрою.

**«Новая газета» (Расія)**

Тым не менш, санкцыі з'яўляюцца эфектыўнымі ў некаторых кірунках: яны моцна раздражняюць кіруючыя колы Беларусі. Таксама, гэта сігнал пра тое, што еўрапейцы памятаюць пра палітвязняў — такіх, як Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Зміцер Дашкевіч, якія падвяргаюцца жудаснаму ціску ў турмах. Еўрапейскі саюз не можа вырашыць, каму кіраваць Беларуссю, але ён можа выказаць стаўленне да паводзін Лукашэнкі і яго паплечнікаў. У гэтым святле санкцыі маюць сэнс.

**«Jamestown Foundation» (ЗША)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГАІЦІ. ВЯРТАЕМСЯ Ў АФРЫКУ

Гаіці — краіна на Карыбах, якая ўзгадала пра афрыканскія карані. Кіраўніцтва краіны вырашыла падаць заяўку на ўступленне ў Афрыканскі Саюз (міжнародная структура, якая аб'ядноўвае ўсе краіны чорнага кантынента). Калі заяўку гаіцян задаволяць, то краіна атрымае статус назіральніка ўжо ў ліпені на саміце Афрыканскага Саюзу ў сталіцы Малаві. Падзея, на думку афрыканскай грамадскасці, гістарычная. Гаіці — першая ў гісторыі рэспубліка чарнаскурых (белых выразалі праз нейкі час пасля абвяшчэння незалежнасці). Дзякуючы гэтаму яна доўгі час была замежным цэнтрам атыкаланіяльнага руху ў Афрыцы. Акрамя таго, тут дзейнічала ідэйная лабараторыя тэорый наконт глабальнай гістарычнай місіі Афрыкі. Што тычыцца інтарэсаў Гаіці ў Афрыканскім Саюзе, дык яны відавочныя. Краіна спрабуе пераадолець наступствы землятрусу 2010 года і шукае падтрымкі. Дарэчы, пасля катастрофы некаторыя мясцовыя палітыкі выступалі за вяртанне гаіцян на гістарычную радзіму, мяркуючы, што Гаіці ўжо ніколі не адрадзіцца.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. ЗЮГАНАЎ НЕ ХОЧА БЫЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ



Эксперты актыўна абмяркоўваюць падрабязнасці сустрэчы прэзідэнта Расіі з прадстаўнікамі пазасістэмнай апазіцыі, а дакладней, яго заяву, якая засталася за кадрам афіцыйнага прэс-рэлізу. Пра яе распавёў старшыня «Расійскага агульнанароднага саюзу» Сяргей Бабурін: «Мядзведзеў сказаў: «Так, выбары ў Дзяржаўную думу не стэрыльныя, але наўрад ці ў каго ёсць сумневы, хто перамог на выбарах прэзідэнта ў 1996-м. Гэта не быў Барыс Мікалаевіч Ельцын». Такім чынам, Дзмітрый Мядзведзяў фактычна пацвердзіў старыя плёткі наконт таго, што ў 1996 годзе перамог Зюганаў. Між тым, адпаведна афіцыйным дадзеным, у 1996-м Ельцын набраў 53,82% галасоў, Зюганаў атрымаў толькі 40,31%. Як ні дзіўна, прадстаўнікі КПРФ зусім не ўзрадаваліся адкрыццям Мядзведзева і ніякія патрабаванні не высоўваюць. Такая пазіцыя зноў рэанімавала размовы наконт таго, што Зюганаў баіцца атрымання ўлады і загадзя згодны на статус камфортнай апазіцыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. САРКАЗІ Ў ТВІТАРЫ ТОЛЬКІ АДЗІН



У твітары былі зачынены акаўнты, якія парадзіравалі Нікаля Сарказі, што выклікала ў Францыі вялікую палеміку. Газета «Ле Монд» распавяла, што адзін з акаўнтаў быў зачынены па просьбе кіраўніка перадвыбарнай кампаніі Сарказі. Усяго было выдалена 4 акаўнты. Яны высмейвалі перадвыбарную кампанію Сарказі, пасылаючы ад яго імя смешныя каментары. Гэтыя акаўнты зваліся «Ma France forte» («Мая моцная Францыя»), «Forte France» («Моцная Францыя») і «Sarkozy ca suffit» («Хопіць Сарказі»). «Відавочна, што наш акаўнт заблакаваны ў выніку даносу. Паводле правіл твітара, гэты данос павінен у абавязковым парадку паступіць ад чалавека, які лічыць сябе ахвярай прысваення асабістых дадзеных, ці ад аднаго з яго законных прадстаўнікоў, кажуць забароненыя твітцяне. «Кіраўнік інтэрнэт-каманды Нікаля Сарказі прызнае, што ён сапраўды патрабаваў ад твітара зачыніць акаўнты з-за прысваенні асабістых дадзеных прэзідэнта, адзначыўшы, што гэта тычыцца акаўнтаў, якія выкарыстоўваюць імя кандыдата». Па яго словах, «гэта магло спрыяць блытаніне сярод карыстальнікаў інтэрнэту, якія жадалі б сачыць за каментарамі Сарказі ў твітары».

**Паводле французскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. ПАЧАЎСЯ «ТЫДЗЕНЬ АКУПАЦЫІ»

25 лютага ў Грузіі штогод адзначаецца Дзень савецкай акупацыі. Ён заснаваны парламентам Грузіі ў 2010 годзе. У гэты дзень у 1921 годзе часткі Чырвонай арміі, паводле трактоўкі гэтых падзей уладамі Грузіі, «ажыццявілі акупацыю Дэмакратычнай Рэспублікі Грузія». У гэтым годзе ўзгадваць акупацыю будуць не адзін дзень, а цэлы тыдзень. У рамках «Тыдня акупацыі», які пачаўся 21 лютага ў Грузіі, запланаваны шэраг мерапрыемстваў, падчас якіх школьнікам краіны будуць распавядаць пра «савецкую акупацыю» і «расійскай агрэсіі». Цэнтрам мерапрыемства стане сталічны Музей савецкай акупацыі, у якім сабраны архіўныя матэрыялы, дакументы, фота і відэаматэрыялы, а таксама асабістыя рэчы і гістарычныя рэліквіі грузінскіх сем'яў, якія перажылі гады сталінскіх рэпрэсій. Удзельнікі акцый «у памяць пра ахвяр барацьбы за незалежнасць» будуць насіць на грудзях чырвоныя макі. Выкарыстоўваць у якасці палітычнага сімвалу макі прыдумала аналітычная група «Прайм-тайм». Упершыню макі выкарысталі падчас ушанавання ахвяраў жнівеньскай вайны 2008 года. «Мак мае падвойнае прызначэнне, ён адначасова з'яўляецца знакам міру і памяці. Мы больш не жадаем войны, і мы вечна павінны памятаць людзей, якія выратавалі радзіму коштам свайго жыцця», — кажуць стваральнікі брэнда.

**Паводле грузінскай прэсы**

▸ ЦІКАВА

# «НАШ ДУРДОМ ГАЛАСУЕ...»

**Алег НОВІКАЎ**

**4 сакавіка Расія выбірае прэзідэнта. Як і кожныя выбары, гэтыя не абышліся без арганізаванай зверху кампаніі за кандыдата ад улады, выканаўцы якой часам у прыступе праяў лаяльнасці пераходзілі мяжу здаровага розуму. Прапануем падборку самых незвычайных акцый у падтрымку Пуціна.**




Напачатку лютага хітом у інтэрнэце стала песня таджыкскага спевака Талібджона Курбанханава — «ВВП». Азіяцкі выканаўца нясkладна пералічвае ўсе подзвігі і здзяйсненні Уладзіміра Уладзіміравіча за 12 гадоў. «Начытка» ішла на фоне панарамных відаў Масквы. Курбанханаў спявае: «ВВП спас народ, // ВВП оберегает, // ВВП, когда во власти, // Он стабильность сохраняет».

Серыя спартова-патрыятычных мерапрыемстваў, звязаных з будучымі выбарамі, прайшла ў лютым у Свярдлоўскай вобласці. Уральцы з дапамогай песняў і спартовых дасягненняў агітавалі насельніцтва галасаваць за Пуціна. Гульцы былі адзетыя ў майкі «Пуцін — наш прэзідэнт!». Сваё рашэнне яны тлумачылі проста: пры Пуціне айчынны хакей зноў стаў займаць першыя месцы на турнірах сусветнага ўзроўню. Самае цікавае, што за часы Пуціна—Мядзведзева зборная Расіі па хакею не выйграла ніводнага значнага турніру.

У інтэрнэце з'явіўся сайт «Будзільнік Пуціна». Кожны карыстальнік можа ўвесці тэлефонны нумар абанента, якога з раніцы абудзіць званок з голасам Уладзіміра Пуціна. Самае смешнае, што хутка ў перадвыбарным штабе Уладзіміра Пуціна заявілі, што яны не маюць дачынення да «Будзільніка Пуціна», і назвалі яго правакацыяй. Справа ў тым, што ў інтэрнэце з'явіліся незадаволеныя каментары тых, каго прэм'ер абудзіў занадта рана.

Прэзідэнт Татарстана Рустам Мініханаў выклікаў на прыватную гутарку кіраўніцтва буйных рэспубліканскіх СМІ і растлумачыў ім «генеральны курс»: «Краіне патрэбен цар. Цар — гэта мужны чалавек, які адказвае за краіну».

У лютым у сеціве з'явіўся сайт «Ствары плакат Пуціна — падтрымай свайго кандыдата!». Арганізатар — ініцыятыўная група пад назвай «Расія без Пуціна — Расія без будучыні», якая вырашыла адабраць 10 тысяч крэатыўных малюнкаў і лозунгаў. Большасць крэатыву дастаткова прымітыўная, кшталту слогану «И вновь продолжается бой, и сердцу тревожно в груди, и Путин такой молодой, и юный октябрь впереди». Аднак ёсць і прарывы. Так, нехта прапанаваў ВВП падчас выбараў выкарыстоўваць лозунг: «Это он, это он, не ловелас и не шпион».

Улады Уладзівастока і функцыянеры «Адзінай Расіі» абвясцілі пра правядзенне ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 4 сакавіка латарэі, на якой будуць разыгрывацца кватэры і аўтамабілі. Пры гэтым купоны для ўдзелу ў латарэі службоўцы збіраюцца выдаваць толькі прыхільнікам Уладзіміра Пуціна. Тым, хто прагаласаваў за Пуціна, таксама змогуць выдаваць купоны на бутэльку гарэлкі.

Школам у Цверы падчас выбарчай кампаніі было загадана закупіць кнігі пра дзіцячыя гады Уладзіміра Пуціна, напісаныя яго настаўніцай па нямецкай мове Веранікай Гурэвіч. У кнізе «Уладзімір Пуцін. Бацькі. Сябры. Настаўнік» распавядаецца пра дзяцінства Уладзіміра Пуціна, яго школьныя поспехі і праблемы.

На Урале афіцыйныя СМІ прадказалі, хто стане новым прэзідэнтам Расіі па выніках выбараў 4 сакавіка. «Прадракальнікам» выступіў вожык з екацярынбургскага заапарка. У звярынцы яго звычайна выкарыстоўваюць для прадказання надвор'я на вясну (гэтак жа, як у Штатах для гэтых мэтаў выкарыстоўваюць сурка). Перад звярком паклалі пяць фатаграфій кандыдатаў у прэзідэнты — на чый малюнак устане вожык-вяшчун, той і пераможа на выбарах. Вожык без ваганняў прадказаў расійскаму прэм'ер-міністру перамогу ў першым туры.

У расійскай глыбінцы на рэгіянальным тэлебачанні ў студзені-лютым круціліся ролікі, якія заклікалі ўсіх неабыякавых прыйсці ва ўмоўлены час і падтрымаць «свайго кандыдата». Галоўная ўстаноўка рэкламы: «Пуцін — народны прэзідэнт!» Ролікі павінны мабілізаваць пенсіянераў і працоўны клас на адказ «Маскве, якая зажралася» і «офіснаму планктону». Праўда, складана зразумець, на які ўзровень інтэлекту гэта разлічана. Як, напрыклад, сюжэт пра працоўнага-рыбака, які раніцай пад бурчанне жонкі збіраецца на падлёдную лоўлю. Але ў апошні момант пакідае ўсе вуды ў хаце і збягае да мужыкоў, якія чакаюць у двары, каб разам паспець на мітынг у падтрымку Пуціна.

Напрыканцы студзеня «Апостальская царква Пуціна» пад Ніжнім Ноўгарадам абвясціла прэм'ера рэінкарнацыяй князя Уладзіміра, які хрысціў Русь: «Зараз Уладзіміру Уладзіміравічу патрэбна нанова пахрысціць нашу паганскую краіну», — сцвярджала матухна Фаціньня, заснавальніца секты. Раней абраз Пуціна зараджаў ваду і спрыяў вылечванню рака, цырозу печані, астмы, сухотаў, скурных і венерычных хвароб і іншых цяжкіх захворванняў.

Пецярбургская секцыя пракрамлёўскага руху «Нашы» — група «Сталь» — стварыла ў падтрымку Уладзіміра Пуціна каляндар з «олбанской» лексікай. Нагадаем, што «олбанска мова» — гэта жаргон карыстальнікаў інтэрнэту. Як след, кожны месяц календара радуе слэнгавай сеткавай лексікай, якая паведамляе, чаму моладзь будзе галасаваць за Пуціна. Напрыклад, «Я за Пуціна, таму што Яяяяяязь!», «Я за Пуціна, таму што ён мужык блееать», «Я за Пуціна, таму што ён няшка».

19 лютага рух «Сетка прыхільнікаў Пуціна» правяла аўтапрабег. Па вуліцах ездзіў аўтамабіль з надпісам «Три раза для мужика нормально», у якім сядзелі пяць дзяўчын у сподняй бялізне. Пры гэтым дзяўчыны заявілі, што іх грэе любоў прэм'ера.

Яшчэ адна серыя ролікаў ад крэатыўнай каманды Пуціна выйшла на экраны тэлебачання ў лютым. Кампанія называецца «Першы раз», і бярэ сваім сэксуальным падтэкстам. Сюжэты разгортваюцца ў кабінетах лекараў (псіхатэрапеўта і гінеколага), з якімі гераіні абмяркоўваюць «свой першы раз». Бліжэй да канца ролікаў становіцца зразумела, што гаворка ідзе пра першыя ў жыцці дзяўчын выбары прэзідэнта, галасаваць на якіх яны маюць намер выключна па любові — за Пуціна.

Вось такая вясёлая творчая выбарчая кампанія за кандыдата Крамля. Нядзіўна, што па яе выніках Пуцін як мінімум пройдзе ў другі тур.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ФУТБОЛЬНАЯ ДЫКТАТУРА

Алег НОВІКАЎ

**Правядзенне міжнародных чэмпіянатаў у краінах, дзе пануе дыктатура, пагражае не толькі іміджу іх удзельнікаў, аднак не выключае і маніпуляцыяў на спартовых спаборніцтвах. Пра гэта сведчаць новыя падрабязнасці аднаго скандальнага матчу на чэмпіянаце свету па футболе 1978 года.**



Аргенціна-Перу 6:0. Леапольда Луке забівае чацвёрты гол у вароты Перу

Перамога зборнай Аргенціны над Перу на чэмпіянаце свету 1978 года адносіцца да аднаго з самых фантастычных эпізодаў у гісторыі сусветнага спорту. Становішча ў гэтай групе было такім, што, каб выйсці ў фінал, аргенцінская каманда павінна была не толькі перамагчы, а перамачы з розніцай у 4 галы. У іншым выпадку фіналістамі станавіліся б бразільцы.

Прычым перамагаць патрэбна было не абы-каго, а зборную Перу, якая ў 1970-я была моцным арэшкам. У 1970 годзе перуанцы выйшлі ў адну чацвёртую чэмпіянату свету, у 1975-м выйгралі Кубак Амерыкі — галоўны трафей лацінаамерыканскіх зборных. Аднак у выніку аргенцінцы дабіліся свайго. Як жартавалі тады мясцовыя гумарысты, паколькі ў краіне пануе дзікая інфляцыя, на ўсялякі выпадак гаспадары поля забілі на два галы больш, чым гэта было трэба. Шэсць безадказных галоў у вароты Перу далі зборнай Аргенціны пуцёўку на фінальны матч з Нідэрландамі.

Не паспеў прагучаць фінальны свісток, як узнікла шмат спекуляцый наконт таго, што справа тут не надта чыстая. Нават аргенцінскія футбалісты прызнаваліся, што яны да канца не зразумелі, што адбылося на полі. Пазней, ужо пасля падзення дыктатуры, некаторыя з іх прызнаваліся, што адчувалі, што тут яўна прысутнічае палітыка. Выклікала падазрэнне і тое, што адразу пасля заканчэння чэмпіянату Аргенціна бясплатна накіравала ў Перу вялікі карабель з зернем.

Такія падазрэнні былі не выпадковыя, асабліва з улікам палітычнай сітуацыі. Для вайсковай дыктатуры, якая панавала ў Аргенціне, перамога на чэмпіянаце была не толькі справай прэстыжу, аднак легітымізацыяй рэжыму ў вачах суайчыннікаў. Так, было вядома, што напярэдадні турніру лідар хунты Хорхэ Відэла выклікаў да сябе Луіса Меноці — трэнера аргенцінскай зборнай, і запатрабаваў ад яго дзве рэчы. Першая — увесці яшчэ адну літару «т» (Menotti) у яго прозвішча, каб яно не гучала падобна на італьянскае. Другая — выйграць чэмпіянат свету.

Хадзілі чуткі, што сярод вайскоўцаў, якія былі ў апазіцыі да Відэлы, існаваў план перавароту ў выпадку, калі Аргенціна не зможа выйграць Кубак Свету. Канспіратары рабілі стаўку на тое, што параза зборнай справакуе такое масавае незадаволенне аргенцінцаў, што хунту можна будзе лёгка перамагчы.

Праўда, былі іншыя версіі. Шмат хто ва ўсім вінавацію перуанскага галкіпера, які нарадзіўся ў Аргенціне і быццам сімпатызаваў землякам.

І вось на днях плёткі пра тое, што матч быў куплены, атрымалі афіцыйнае пацвярджэнне. 12 лютага былы перуанскі сенатар Жэнара Ізкіета, даючы паказанне ў аргенцінскім судзе, выдаў сенсацыю. Вынік матчу Аргенціна — Перу быў узгоднены на непасрэднай сустрэчы лідараў дзвюх краін. Аргенціну прадстаўляў кіраўнік хунты Хорхэ Відэла, а Перу — яго калега, таксама дыктатар Францыска Бермудэс. Негацыянты хутка дасягнулі кампрамісу. Перуанскі бок абавязаўся зрабіць так, каб зборная Перу прайграла з патрэбным лікам. Аргенцінскі бок браў на сябе абавязак ліквідаваць 13 вядучых перуанскіх апазіцыянераў на сваёй тэрыторыі.

Яшчэ раней 13 перуанскіх дысідэнтаў — прафсаюзныя актывісты, журналісты, былыя партызаны — былі арыштаваныя ў Перу без хоць нейкай прававой працэдуры. Па словах самога Бермудэса, гэта быў адзіны сродак правесці ў краіне ўпершыню за шмат гадоў свабодныя выбары. Дарэчы, выбары сапраўды адбыліся, у выніку чаго Бермудэс прайграў і пакінуў вялікую палітыку.

Аднак вернемся ў 1978 год. Пакуль перуанскія ўлады думалі, што рабіць з выкрадзенымі дысідэнтамі, стартаваў чэмпіянат свету. 21 чэрвеня Перу і Аргенціна павінны былі згуляць той самы гістарычны матч за выхад у фінал. Менавіта ў гэты час Хорхэ Відэла прапанаваў перуанскаму калегу праект дамовы: вы элегантна прайграеце матч, а мы элегантна вырашаем ваша пытанне з апазіцыянерамі.

Бермудэс пагадзіўся. У выніку 21 чэрвеня стала днём ганьбы для перуанскага футболу. Тое, што перуанцы настроеныя на паразу, было відаць па стартаваму складу каманды, куды галоўны трэнер уключыў шмат моладзі без вопыту гульні ў матчах такога ўзроўню.

Мяркуючы па ўсім, футбалістам Перу таксама някепска заплацілі. Прынамсі пазней гэта прызнаваў варатар перуанцаў у інтэрв'ю аргенцінскай газеце «La Nacion». Таксама, па яго словах, шмат хто з удзельнікаў таго матчу пасля знік пры загадкавых абставінах. З іншага боку, што заставалася спартсменам? Адзіны пратэст, на які яны аказаліся здольнымі, — выйшлі на поле ў не характэрных для экіпіроўкі каманды чырвоных трусах, каб, па словах трэнера, загадзя давесці, што ім сорамна за гэтую гульню.

Што тычыцца перуанскіх апазіцыянераў, то іх хутка тайна даставілі на поўнач Аргенціны, дзе патрабавалі напісаць просьбы аб адмове ад перуанскага грамадзянства. Цяжка сказаць, што іх чакала, калі б не кампанія, якую пачалі міжнародныя праваабарончыя арганізацыі. Пад ціскам грамадскасці ўлады Аргенціны адмовіліся ад ідэі забойства. Хутка ў Аргенціне пачаліся дэмакратычныя рэформы, перуанцаў вызвалілі, а пра іх справу забыліся.

І вось праз амаль 40 гадоў тая гісторыя дысідэнтаў зноў выйшла на першыя старонкі газет. Прычым чым далей, тым пытанняў усё больш. Так, нельга забываць пра тое, што ў тыя часы ў рэгіёне дзейнічала «Аперацыя Кондар». Адпаведна ёй, усе спецслужбы Лацінскай Амерыкі пад патранатам ЦРУ супрацоўнічалі для барацьбы з левай апазіцыяй. Таму не выключана, што да махінацыяй у футболе спрычыніліся і амерыканскія чыноўнікі.

Думаецца, што канчатковы адказ на пытанне, як падтасоўвалі гульні чэмпіянату свету 1978 года, ведаюць толькі два чалавека — Хорхэ Відэла і Францыска Бермудэс. Першы, як вядома, асуджаны на пажыццёвы тэрмін за забойствы і катаванні. Другі пакуль на свабодзе, аднак аргенцінская і італьянская Феміда ўжо шукаюць схемы, каб таксама пасадзіць яго ў турму за забойствы ў рамках той жа «Аперацыі Кондар».

Між тым, жоўтая прэса Вялікабрытаніі, дзе пасля Фальклендскай вайны моцныя антыаргенцінскія настроі, заклікае галандцаў тэрмінова аспрэчыць вынікі фінальнага матчу чэмпіянату свету 1978 года. Як вядома, тады «аранжавыя» прайгралі аргенцінцам 1:3. На думку газетчыкаў, там таксама не абышлося без палітыкі.

Застаецца агучыць пазіцыю ФІФА. Як піша лонданская газета «Telegraph» са спасылкай на свае крыніцы ў Федэрацыі, там уважліва сочаць за скандалам, аднак без афіцыйных запытаў нічога рабіць не збіраюцца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### ТОРУ ХАШЫМОТА

Мэр буйнага японскага горада Осака, якому ўсяго 42 гады, заявіў пра намер змяніць мадэль двухпартыйнай сістэмы ў краіне. Нагадаем, што на працягу ўсёй пасляваеннай гісторыі краінай амаль увесь час кіравала ліберал-дэмакратычная партыя, якую ў апошнія гады змянілі дэмакраты. Хашымота лічыць, што гэта сістэма больш сябе не апраўдвае і надышоў час увесці прамыя выбары часткі ўрада (зараз урад абірае парламент). Ён таксама лічыць, што верхняя палата парламента, якая часта блакуе рэформы, заслужыла сабе поўнае права на роспуск. Адным словам, Тору марыць пра канстытуцыйную рэформу. З улікам традыцый японскага кансерватызму з гэтага можна было б толькі пасмяяцца. Калі б не палітычная біяграфія мэра. Ён — былы вядучы прававых праграм на тэлебачанні, калісьці з нуля стварыў асабістую партыю і перамог на выбарах мэра Осака. Акрамя таго, 60% японцаў выказаліся ў падтрымку яго праграмы, сыходзячы з вынікаў апытання грамадскай думкі. Дарэчы, сам Хашымота ўжо прыдумаў назву сваёй ідэалогіі рэформаў — «хашызм».

### ГЕОРГІЙ ПАЛТАЎЧАНКА



Губернатар Санкт-Пецярбургу высунуў прапанову: стварыць у горадзе на Няве ўласны Гайд-парк — месца, дзе ўсе жадаючыя змогуць беспярашкодна праводзіць мітынгі і акцыі, у тым ліку апазіцыйнага характару. На думку чыноўнікаў, аптымальным месцам для масавых акцый з'яўляецца Пятроўская выспа, на якой размешчаны Пятроўскі стадыён. Непадалёк ад стадыёна ёсць сажалка, на берагах якой дэпутат і прапануе стварыць Гайд-парк. На думку губернатара, такое месца можа стаць адным з самым цікавых турыстычных атракцыёнаў. У гэтым няма ніякіх сумневаў. Паўночная сталіца славіцца сваімі арыгінальнымі палітычнымі ініцыятывамі, якія стопрацэнтна паспрабуюць выкарыстаць Гайд-парк для прапаганды сваіх праграм. Напрыклад, тут дзейнічае партыя расійскіх паганцаў. Між тым, апазіцыя баіцца, што піцерскі Бангалор — гэта сродак завесці апазіцыю ў рэзервацыю, і патрабуе, каб заканадаўча ёй было гарантавана права разам з акцыямі ў Гайд-парку мітынгаваць і ў іншых частках горада. Дарэчы, Піцер — не піянер у гэтай галіне. Раней у снежні 2011 года прэм'ер-міністр Уладзімір Пуцін прапанаваў падабраць месца для стварэння пляцоўкі для мітынгаў накшталт англійскага Гайд-парку ў Маскве.

### ДЭВІД КЭМЕРАН



Прэм'ер Вялікабрытаніі абвясціў крыжовы паход супраць алкагалізму на Альбіёне. Ён выступіў у парламенце са спецыяльнай прамовай, у якой сярод іншага адзначыў: «За апошнія дзесяць гадоў мы ўбачылі, наколькі жахліва хутка вырасла колькасць людзей, якім здаецца, быццам напівацца на публіцы, здзяйсняць злачынствы і сеяць страх — гэта нармальная рэч. Я маю намер скончыць з гэтай праблемай». Што ж прапануе зрабіць галоўны торы? У першую чаргу, ён хоча, каб алкаголь быў даражэйшы. Другая мера — адмысловыя аўтобусы, у якіх ездзяць дактары і аказваюць першую дапамогу п'яным небаракам. Напрыклад, спрабуюць прывесці іх прытомнасць. У дадатак да гэтага, Кэмеран прапануе скарыстацца замежным досведам і пачаць будаваць па ўсёй Вялікабрытаніі выцвярэзнікі. Каб п'яных людзей не трэба было адпраўляць у паліклінікі ці ў паліцэйскія аддзяленні — хай адсыпаюцца ў адмысловых месцах, лічыць урад. Цікава, што інтарэс да такой практыкі ўзнік тады, калі ў Расіі быў закрыты апошні выцвярэзнік. Расіяне лічаць такі сродак барацьбы з зялёным змеем неэфектыўным. Праўда, брытанцы больш арыентуюцца на досвед ЗША, дзе выцвярэзнікаў дасюль хапае.

▸ ЛЁСЫ

# ВАЛЕРЫ МАЗЫНСКІ: СОНЦА

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Памятаю, як мае калегі бурна абмяркоўвалі тое, што знакаміты рэжысёр Валеры Мазынскі паставіў у прыёмніку-размеркавальніку, які месціцца на вуліцы імя геройскага лётчыка Барыса Акрэсціна, горкаўскую п'есу «На дне». Маўляў, не пабаяўся. Многія тады захапляліся грамадска-сацыяльным учынкам, і амаль ніхто не звяртаў увагу на яго творчую частку. На мой погляд, дарэмна, бо менавіта з іх і складваецца спектакль з назвай «Чалавечае жыццё».**



## Пралог

Мне «пашчасціла» 20 лютага 1947 года нарадзіцца на Барысаўшчыне. Двукоссе тут таму, што гэта, відаць, самы біты-перабіты край з усёй Беларусі. Там заусёды хтосьці з кімсьці ваяваў. Здратаваны шлях з Еўропы ў Азію, на якім мала засталося з таго, што вызначала людзей як нейкую самастойную супольнасць. Вакол адны ваенныя гарадкі. Такое адчуванне, што я нарадзіўся сярод салдатаў.

Вёска Вялікае Стахава стаіць на беразе Бярэзіны (так яе ў нас называлі, з націскам на «э»), гэта кіламетраў восем на поўнач ад Барысава ў бок Бягомля, што па правым беразе. Побач — танкадром. За ім — той самы палігон, з-за якога былі выселеныя-перасяленыя, адным словам, расцярушаныя, некалькі цудоўных вёсак, і які зарастае сёння маладым лесам.

Дарэчы, у шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя там здымалі кіно «Пераклічка», і выканаўца адной з роляў, малады Мікіта Міхалкоў, уехаў на танку ў рэшткі бягомльскай праваслаўнай царквы. Мясцовы бацюшка па гэты дзень чакае матэрыяльнай кампенсацыі ўсяго, што ён тады пабурыў. І мае рацыю, бо Міхалкоў зараз не толькі багаты і магутны чалавек, але і актыўна «піярыць» асабістыя рэлігійныя сімпатыі. Як кажуць, сам Бог загадвае гэта зрабіць.

І яшчэ адзін арыенцір. Мая родная вёска знаходзіцца ў чатырох кіламетрах ад знакамітай Студзёнкі, дзе Напалеон у 1812 годзе фарсіраваў Беразіну.

Зразумела, усе ўспаміны маіх бацькоў былі звязаны менавіта з вайной.

Час ад часу маці, Паліна Ігнатаўна, расказвала пра тое, што адбывалася падчас акупацыі. Бацька — Яўген Сямёнавіч Мазынскі — зусім не любіў гаварыць пра вайну, хоць у свае васямнаццаць трапіў на фінскую. На жаль, іх ужо няма.

У мяне тры браты і чатыры сястры. Дзякуй Богу, усе жывыя. Вышэйшую адукацыю з усіх атрымаў толькі я. Некалі на юбілей маці сабралася ўся радня: усе з дзецьмі і ўнукамі — каля 35 чалавек. Гэта толькі бліжэйшыя сваякі.

Дарэчы, бацька і маці не ведалі дакладнага дня свайго нараджэння. Вечныя акупацыйныя ўлады выдзіралі ў людзей той гонар і тую годнасць да самiх сябе.

Як толькі сыходзіў снег, у лесе, які рос проста за нашай вёскай, з'яўляліся ваенныя. Пачыналіся так званыя «вайсковыя летнікі». Да самай позняй восені гэта быў, па-сутнасці, цэнтр нашага жыцця.

Вёска ж была вялікай — каля трохсот двароў. На танцах адбываліся пастаянныя бойкі з салдатамі, бо «ахвочых» да нашых дзевак хапала і сярод мясцовых.

Жыццё ж праходзіла сярод вайскоўцаў. Там было цікавей, чым дома ці ў школе.

Па суботах паказвалі кіно. На дрэвы сярод лесу вешалі белую прасціну. З аднаго боку глядзелі салдаты, з другога — мы. Атрымлівалася кіно наадварот. У іх, скажам, персанажы ішлі налева, а ў нас направа.

Жылі цяжка. Беднасць была страшэнная. Проста катастрафічная. Восем дзяцей. Бацькі «за галачкі» працуюць у калгасе, які называўся «Іскра камунізму». Дарэчы, праз рэчку, у Малым Стахаве, — «Маяк камунізму». Абодва ляснуліся шмат гадоў таму. А наша вёска стала «неперспектыўнай»… Цяпер у асноўным там лецішчы барысаўчан ці нават мінчукоў.

Адразу за маёй хатай месціліся могілкі. Чаму месцілiся? Там якраз цяпер уся тая вёска, якая і засталася ў маёй памяці.

Чаго мы толькі там ні рабілі! Раскладалі вогнішчы, кідалі ў агонь патроны, якіх было поўна пасля вайны.

На могілках раслі велічэзныя ліпы. Іх доўгія галіны нагадвалі ліяны. А ў нас якраз паказвалі «Тарзана». Старэйшыя хлопцы, ухапіўшыся за тыя голлі, скакалі з адной на другую, а мы, малыя, толькі зайздросцілі.

У суседа, які жыў побач з намі, былі вельмі смачныя яблыкі. Старэйшыя хлопцы з боку могілак прарылі туды доўгі падкоп — метраў пятнаццаць. Бо плот жа быў шчыльны ды высокі. Гаспадар не мог нас злавіць. Выкрылася ўсё выпадкова: бацька аднаго з маіх сяброў ганяўся за намі і праваліўся ў гэты лаз.

Колькі ні намагаюся ўспомніць у дзяцінстве дрэннае надвор'я, — не магу. Толькі сонца. У любую пору года.

Памятаю, як пачынаючы з першага класа школы пачаў насіць «камандзірыхам» малако. Так называлі жонак афіцэраў. Самі мы яго не пілі — прадавалі да апошняй кроплі, бо толькі так можна было атрымаць «жывыя» грошы. Для калгаснікаў іх фактычна не існавала.

Матуля расказвала, як у першыя дні вайны гэтыя афіцэрскія жонкі збеглі з Лядзішчаў хутчэй маланкі. Нават свае кватэры не закрылі…

І яшчэ адзін успамін пранясу праз усё жыццё — навабранцы. Я стаў да іх хадзіць прыблізна з васьмі гадоў. Тады веснавых прызываў не было. Толькі — восень.

Іх «прыганялі» з усяго Савецкага Саюза, і мы хадзілі за «шмоткамі», якія зараз называюцца «сэканд хэндам».

Калі калону навабранцаў «пагоняць» з вакзалу, мы даведваліся ад знаёмых і дзядзькоў, якія працавалі ў качагарках, і чакалі іх на падыходзе да ваеннага гарадка. З заплечнікамі, пашытымі мацяркамі, і ваеннымі рэчмяшкамі.

Афіцэры пра «набегі» вяскоўцаў таксама ведалі, таму імкнуліся прыводзіць папаўненне ў самы няручны для нас час — познім вечарам, раніцай, альбо ўвогуле ноччу.

Сутнасць ж «набегаў» складалася з таго, што мы пасля лазні, куды гналі папярэдне навабранцаў (дамаўляліся звычайна з капцёршчыкамі, старшынамі і г.д.), забіралі іхняе старое адзенне, бо іх пераапраналі ўжо ў ваенную форму.

Бывала, яны аддавалі яе самі, яшчэ на самым падыходзе да вайсковай часткі, бо ведалі, што ад усяго «цывільнага» там пазбавяць усё роўна і яго проста пасякуць на вялікай калодзе, а што і спаляць. Сюррэалістычная карціна адбывалася: ідзе калона абадранцаў і з яе адлятаюць — то ўправа, то ўлева — фуфайкі, кашулі, дзяжкі.

Аднойчы мне папаўся адзін бацінак, а сябру — другі з той жа пары. Да самага дому вырашалі, каму аддаць «свой». І выкінуць шкада, і рэч цалкам не да патрэбы, калі мець толькі адзін.

Для сям'і гэта была вялікая дапамога. Маці ўсё перамые, першыя «пераліцуе», як у нас гаварылі, — і можна насіць.

Самай вялікай узнагародай у школе былі новыя картовыя штаны ці кашуля. За добрую вучобу я іх атрымліваў некалі разоў.

Няхай мне даруюць усе мае настаўнікі, але, на жаль, нічога добрага пра сваю школу я сказаць не магу, акрамя аднаго настаўніка — Уладзіміра Кірылавіча Карповіча. Ён выкладаў батаніку і…спевы. Да гэта часу люблю і ўмею завіхацца ў садзе, прышчапіць любое дрэва. Менавіта ад яго і шчырая любоў да зямлі і да песні.

Канешне, як вясковы хлопец я добра ведаў, што гэта такое — вясковая праца, але яна заўсёды асацыявалася з вельмі цяжкай працай. І не толькі маёй асабістай. Далася ў знакі гэтая праца і бацькам. Маці аднойчы ледзь не загінула. Калі бабы на полі церабілі калгасны лён, яе зацягнула ў механічную церабілку. Працягнула на транспарцёры… і выкінула на другім баку. Усё павырывала, паламала. Выратавала яе толькі моцнае на той час сэрца.

## Авансцэна

Кіно ў маім дзяцінстве (нармальнае, а не з другога боку экрана) можна было паглядзець толькі ў хаце-чытальні, ці калі-нікалі ў школе. У невялікі пакой (квадратаў на дваццаць) набівалася амаль уся вёска. Месцаў усім не хапала, і час ад часу кінапраектар выстаўлялі ў вакно, і тады фільм глядзелі на вуліцы, папярэдне прадаўшы максімальна магчымую колькасць квіткоў. Экран вешалі на бліжэйшым слупу.

Гэта была ўлюбёнасць да вар'яцтва. За што я пастаянна і «атрымліваў» ад бацькі і ад настаўнікаў, бо кіно перашкаджала вучобе. Лупілі нас бязбожна.

У 14 гадоў, мне здаецца, я ведаў усіх артыстаў таго часу, якія толькі з'яўляліся на стахаўскім экране. Самым любімым фільмам была «Родная кроў» з Яўгенам Матвеевым і Віяй Артманэ. Матвееву я нават напісаў ліст. Адрасу, канешне, не ведаў, таму напісаў так: «Масква. Масфільм. Яўгену Матвееву».

Пазней на адным з маскоўскіх (эсэсэраўскіх) тэатральных з'ездаў Лёша Дудараў, седзячы ў прэзідыуме, расказаў гэтую гісторыю Віі Артманэ. У перапынку яна знайшла мяне, прыцiснула да сябе і нават заплакала.

Пасля «сямігодкі» паехаў пакупаць у аўтатрактарны тэхнікум, які знаходзіўся каля Трактарнага завода. Чаму такі выбар? З чыста прагматычных падыходаў. Кіно — недасягальна-абстрактная мара, а тут — канкрэтная прафесія. Кіно было нават не марай. Гэта нешта Боскае.

Аднак па «рускай мове» атрымаў «двойку», і давялося вяртацца дамоў. У гэты ж час наша школа стала васьмігодкай. Стаў там вучыцца, а праз год паспрабаваў паступіць зноў. На гэты раз абраў архітэктурна-будаўнічы тэхнікум.

Хаця профіль тут быў іншы, але з яго выйшла шмат творчых людзей. Напрыклад, Валодзя Скараход кіраваў там эстрадным аркестрам, а потым нават быў намеснікам міністра культуры. Во як!

Нягледзячы на тое, што ўсе тэхнічныя дысцыпліны былі, мякка кажучы, «не мае», праз чатыры гады атрымаў дыплом.

Дарэчы, пра захапленне маё там ведалі (адкуль?) і часцяком, па-сяброўску разводзілі. Звычайна было так. Нехта падыходзіў і казаў: «Маз (мянушка падчас вучобы — заўвага аўтара), там і там здымаюць кіно». Гэтага было дастаткова, каб я тут жа збег з заняткаў. Розыгрыш выкрываўся ў згаданым месцы.

На чацвёртым курсе тэхнікума паспрабаваў паступіць у тэатральна-мастацкі інстытут. Дзіцячая мара стаць акцёрам раз-пораз працінала маю душу і скіроўвала ўсю маю волю ў адзіным напрамку.

Зразумела, атэстату аб сярэдняй адукацыі ў мяне яшчэ не было, але прыёмная камісія паверыла ў «прынясу потым» і дазволіла прайсці некалькі тураў. Пакуль не выкрыўся падман.

Усе, хто хадзіў па тамтэйшых калідорах (нават прыбіральшчыцы), былі для мяне «небажыхарамі». Глядзеў на іх з нейкім піетэтам, незвычайным захапленнем. Адзін раз ледзь не страціў прытомнасць. Натуральна «паплыў», і толькі халодная калона каля маёй скроні дапамагла ўтрымацца на нагах.

Пазней самастойна асвоіў усю кінематаграфічную апаратуру, бо быў згодны нават на аператарства.

А на трэцім курсе вучобы ў тэхнікуме пайшоў у тэатр-студыю пры Палацы прафсаюзаў, дзе тады кіраваў Кузьма Кулакоў. Магу сказаць і сёння, што там быў даволі высокі прафесійны ўзровень. Да гэтага часу, бывае, сустрэну і Гену Сінякова, і Колю Аўдзея, і Славіка… (забываць стаў прозвішчы). А з Мішам Лур'е, які на сёння атабарыўся ў Ізраілі, праўчуўся побач яшчэ і ў інстытуце.

Іграў некалькі роляў, але ставіўся да гэтага вельмі крытычна. Глядзеў у люстэрка і думаў: «Ну які з мяне артыст? Іншыя значна прыгажэй і больш таленавітыя». Відаць, з гэтым беларускім самаедствам мне накавана прайсці да канца жыцця.

Потым была вайсковая служба. Забралі мяне адразу пасля Новага года — 4 студзеня 1966 года. Служыў у авіяцыі. Спачатку ў

# Ў ЛЮБОЕ НАДВОР'Е




Ніжнім Уздзенску, што недалёка ад Байкала. Пяць сутак цягніком ад Масквы.

Чатыры месяцы вучыўся ў ШМАСе, дакладней, у «Школе малодшых авіяспецыялістаў». А потым у «цяплушках» прывезлі ў Ніжні Валачок, дзе вучоба працягвалася яшчэ сем месяцаў. Атрымаў кваліфікацыю радыёмайстра, хаця гэта было абсалютна не маім. Размеркавалі ў Хабараўск, дзе на аэрадроме цягнуў лямку яшчэ тры гады.

Менавіта ў гэты час была пeратурбацыя з тэрмінамі вайсковай службы. Пераходзілі на «два гады», а ўрэшце некаторым давялося служыць нават чатыры, а іншым па 8–9 месяцаў — вечны расійскі бардак.

## П'еса

Пасля звальнення ў запас вярнуўся дамоў, але ў роднай вёсцы прабыў толькі некалькі дзён. Зноў прыехаў у Мінск. На «Беларусьфільме» была вакансія ў цэху дэкаратыўна-мастацкай службы. Мяне туды ўзялі і паклалі аклад у 160 рублёў.

Пакуль не было адпаведнай пасады (дыплом тэхнікума ўсё ж такі) на адзін месяц накіравалі на піларaму. Кіраваў там нейкі дзядок, якому я купляў бутэльку «чарнілаў», а сам збягаў глядзець, як здымаюць кіно. Гэта для мяне, паўтаруся, было самым галоўным.

Аднойчы выпадкова пачуў пра тое, што ў тэатральна-мастацкім інстытуце, хутчэй за ўсё, будзе недабор. Зноў мая душа сцялася ў аняменні. Гэта паказалася шансам, хоць адпаведных гуманітарных ведаў у мяне, на жаль, не было. Яны абмяжоўваліся васьмю класамі школьнай адукацыі — у тэхнікуме дамінавалі дакладныя дысцыпліны. Быў упэўнены, што не паступлю, але…

Вырашыў зноў паспрабаваць. Падаў дакументы на акцёрскі факультэт. Аднак за некалькі дзён да deadline прыйшоў забіраць іх назад. Сумленне «заела» — нічога не ведаю і некуды лезу. Падумаў, пройдзе год, падвучуся, начытаюся таго-сяго і буду паступаць наноў, а цяпер — поўнае нахабства.

Гэтыя аргументы я і прывёў сакратарцы прыёмнай камісіі. А яна, Эма Міхайлаўна, параіла ў такім выпадку… перайсці на рэжысуру, дзе будзе вельмі малы набор. Але ж пераканала не гэта, а яе словы: «Вы ж будзеце начальнікам. Пажадаеце, возьмеце для сябе любую ролю».

Жалезная логіка…

Перапісаў заяву і паведаміў аб паступленні на рабоце. Там ахнулі, бо хацелі зрабіць начальнікам аднаго з цэхаў.

Не буду пераказваць усе абставіны той «абітуры». Скажу коратка — паступіў. І адразу ж паехаў у Вялікае Стахава. Трэба было параіцца з роднымі і, перш за ўсё, з бацькамі — студэнцкая стыпендыя амаль у дзесяць разоў меншая за тыя грошы, што атрымліваў на «Беларусьфільме».

Шчыра кажучы, я спадзяваўся, што на сямейнай радзе мне параяць не ісці «на артыста», аднак выйшла наадварот. Гэткія ў мяне сёстры!

Амаль увесь першы курс вагаўся наконт правільнасці зробленага выбару: даваўся ў знакі недахоп ведаў. Нават хацеў сысці з інстытута, але адмовіўся ад гэтай ідэі пасля аднаго выпадку.

Наш курс рэжысёраў вёў вядомы Уладзімір Андрэевіч Маланкін. Чарговым заданнем было знайсці самае сваё любімае апавяданне. Для маіх сяброў ніякіх цяжкасцей тут не было, а для мяне — сапраўдная праблема. Што ні прачытаю, усё не падабаецца. Душа не адгукаецца, маўчыць. І тут не падманеш, шпаргалку не выцягнеш.

Аднойчы ў поўным адчаі зайшоў у бібліятэку, якая тады была там, дзе зараз «Акадэмкніга». Не гледзячы, выцягнуў нейкую кніжачку. Было гэта ў 11 раніцы, а ў 8 гадзін вечара мне кажуць: «Мы зачыняемся». Я сядзеў у кутку, каля батарэі і плакаў. Галава гудзела, мяне трэсла. Гэта была невялічкая кніжачка «Там вдали» Васіля Шукшына.

Калі кажуць: «Сезам, адчыніся!», то гэта быў менавіта такі момант. Я адчуў сябе рэжысёрам. Тут, каля паліц з кнігамі, раптам зразумеў, што патрэбна маёй душы. Гэтая кніжка павінна быць толькі маёй, і я схаваў яе далей ад людскога вока. На наступны дзень я яе банальна скраў. У каго цяпер прасіць прабачэння за той грэх?

Шукшын стаў своеасаблівым каталізатарам.

Адразу захацелася рэпеціраваць. Ролі ў нашых пастаноўках выконвалі студэнты акторскага факультэта. Я іх літаральна змучыў.

Будучыя рэжысёры ледзь не біліся за тое, што не маглі падзяліць адпаведны час.

К канцу трэцяга курсу ў мяне было ўжо тры спектаклі. Першы называўся, здаецца, «Характары». Я спалучыў тры апавяданні Шукшына і «Стэп» Чэхава. Фантастыка!

Я першым у свеце паставіў на тэатральнай сцэне Васіля Быкава. «Круглянскі мост» (пастаноўка ў Раеўскага была пазней), потым п'есу Леанарда Франка «Прычына» — сапраўдны сюр. Цікава і загадкава.

На чацвёртым курсе на дыпломную практыку паехаў у Віцебск у абласны драматычны тэатр імя Якуба Коласа — адзін з лепшых у краіне.

Тагачасны (светлай памяці) дырэктар, Геральд Баляслававіч Асвяцінскі, сустрэў ветліва і прыязна. Ён з асаблівай любоўю ставіўся да ўсяго беларускага (хоць і таіў гэта глыбока ў сабе), на чым мы потым вельмі цесна сышліся. У 1974 годзе Віцебск святкаваў сваё тысячагоддзе, і ён загадаў (менавіта!) мне да гэтай даты паставіць «Званы Віцебска» — адну з п'есаў Караткевіча, які тады толькі-толькі набіраў папулярнасць. Гэта быў пачатак майго ўсведамлення як беларуса, як ліцьвіна… чалавека, які жыў пакуль толькі нейкай падсвядомасцю.

Так мы пазнаёміліся з Уладзімірам Сямёнавічам Караткевічам.

Натуральна, што і размеркаваўся я таксама туды, і прапрацаваў у коласаўскім тэатры яшчэ 16 гадоў. З іх, дарэчы, 13 — галоўным рэжысёрам.

Колькі за гэтыя часы было зроблена п'есаў, падлічыць складана. За творам Караткевіча пайшоў яго ж «Кастусь Каліноўскі», потым «Сымон-музыка» Коласа, п'есы Дударава, Цендракова, Вампілава і г.д. Для мяне было вельмі важным зрабіць нацыянальны тэатр не па назве, а па сутнасці.

Дарослы савецкі тэатр заўсёды рабіў як бы «ў нагрузку» спектаклі для дзяцей. Узнікла ідэя набраць трупу лялечнікаў. Потым з Асвяцінскім мы вырашылі стварыць самастойны лялечны тэатр. Спачатку «пры», а потым адпусцілі ў вольнае плаванне. І рэжысёра сабе адшукалі — Віктара Клімчука, які матляўся па Украіне, а «дома» месца не знайшоў. І назву тэатру прыдумаў я — «Лялька». Спадзяюся, нават пры гэтай уладзе яе не перайменуюць у «Куклу».

Да нашага часу гэта адзіны ў краіне беларускамоўны лялечны тэатр.

## Вольная сцэна

Пачыналася перабудова, якая для многіх азначала пачатак нацыянальнага адраджэння. У Віцебску адбываліся першыя дэманстрацыі. Памятаю, як з белых і чырвоных мыльніц я клеіў з малымі сынамі бел-чырвона-белыя значкі, і мы ганарліва хадзілі з імі па гораду.

У 1990 годзе сышоў з Коласаўскага тэатра і перабраўся ў сталіцу. Па прапанове Міністэрства культуры паставіў у Купалаўскім тэатры адну з п'есаў Кандрата Крапівы. Прапрацаваў на пасадзе рэжысёра толькі год.

Хацелася зрабіць нешта сваё. Звярнуўся з ідэяй да міністра культуры, балазе свой, зямляк. Яўген Вайтовіч пайшоў насустрач. Так пры Купалаўскім тэатры была афіцыйна створана «Лабараторыя беларускай драматургіі». Паставілі тры спектаклі, а потым адбылося і фармальнае аддзяленне. З 1991 года — тэатр «Вольная сцэна». Назва, зноў жа, не афіцыйная, а, так бы мовіць, народная, але вось прыжылася і, спадзяюся, застанецца ў гісторыі.

На пасадзе дырэктара працаваў восем гадоў. Шэсць гадоў пры «новай уладзе».

Не скажу, што наш тэатр ператвараўся ў гняздо апазіцыі, але там была пэўная беларускамоўная атмасфера. Дый думалася там пра сваё, нацыянальнае. Да нас нават «на пасядзелкі» пасля сваіх спектакляў прыходзілі артысты-купалаўцы, з «маладзёжкі», з іншых тэатраў. А аднойчы пад вокны прыйшла цэлая дэманстрацыя, якую не пусцілі не Плошчу Незалежнасці і перад тэатрам адбыўся сапраўдны апазіцыйны мітынг.

Зразумела, новай уладзе гэта спадабацца не магло па вызначэнню. Тагачасны міністр культуры Сасноўскі мне аднойчы сказаў: «Нам не нужна здесь еще одна Таганка…»

Вельмі салідны камплімент.

Апошняй кропляй было, калі я паставіў п'есу Бертольда Брэхта «Кар'ера Артура Уі». Зроблена гэта было спецыяльна да чарговага З'езду беларусаў свету. «Зверху» настойліва прасілі яго «зняць», аднак я ўпёрся.

У тэатры сумяшчаў дзве пасады — дырэктара і мастацкага кіраўніка. З першай мяне (чаго і трэба было чакаць) звольнілі амаль адразу ж. А другую заняў чалавек, якога нават не хачу ўзгадваць, бо так ужо сталася, што ён для мяне больш не існуе. Скажу толькі, што глыбіня чалавечай подласці іншы раз сапраўды не мае межаў…

Звальненне адбылося ў 2000 годзе. Пасля гэтага я яшчэ шэсць гадоў выкладаў ва Універсітэце культуры, але дабраліся да мяне і там. Звольнілі за два гады да пенсіі. Як беспрацоўны я стаў на ўлік на біржы працы, дзе работу па спецыяльнасці спачатку абяцалі знайсці вельмі хутка, але праз некалькі тыдняў яны ўжо хавалі вочы, бо я атрымаў пажыццёвы воўчы білет.

## Антракт

Год безвыніковых пошукаў дазволіў датэрмінова аформіць мяне на так званую «сацыяльную пенсію». Грошы такія мізэрныя, што і называць сорамна. Пражыць на іх было немагчыма, дый трэба было за нешта ўхапіцца, каб не звар'яцець, таму я ўладкаваўся да аднаго турэцкага бізнесмена. Адначасова працаваў і дворнікам, і ахоўнікам.

Нехта са знаёмых узгадаў, што за званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі і заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі можна атрымаць дабаўку да пенсіі. Я паехаў у адпаведную кантору, якая знаходзілася на сталічнай вуліцы імя расійскага паэта Маякоўскага. Не буду пераказваць увесь маразм, які там убачыў. Згадаю толькі два пункты з іх анкеты, якую я мусіў там скласці: «Якія вы маеце спагнанні па партыйнай лініі?» і «Ці маеце вы сваякоў за мяжой?»

І гэта на пачатку XXI стагоддзя! Я нават спытаўся: чыталі гэтую анкету тамтэйшыя чыноўнікі альбо не?..

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года ўпершыню ў сваім жыцці трапіў за краты. З сябрам Валодзем Кішкурнам мы вярнуліся да мяне дамоў, нарэзалі сала, хлеба, налілі ў тэрмас гарбаты і зноў пайшлі на Кастрычніцкую плошчу, дзе ўжо стаяў намётавы гарадок. Каля будынку кансерваторыі спынілі амапаўцы (тры бугаі) і, даведаўшыся, што ў нашых торбах, сказалі: «*Даже не пытайтесь сопротивляться!*»

…У камеры на Акрэсціна нас было 14 чалавек. Самыя «старыя» — журналіст Мікалай Мікалаевіч Тоўсцік, палітык Анатоль Лябедзька і я. Астатнія — моладзь. Усе — годныя, прыгожыя, адукаваныя, смелыя, разумныя людзі. Сапраўднае брацтва.

І ўвогуле, у маім жыцці гэтыя дні былі аднымі з самых шчаслівых, бо я зразумеў, што ў нас ёсць шанец на пэўныя перамены, і яны абавязкова адбудуцца.

Па маёй просьбе сын Васіль прынёс 16 раздрукоўак горкаўскай п'есы «На дне» — па колькасці роляў. Цалкам лагічны выбар, бо нічога іншага да тых абставін не падыходзіць. Уяўляю, у якой разгубленасці было акрэсцінскае кіраўніцтва….

Дарэчы, у мяне вельмі надзейны «тыл». З жонкай Людмілай мы пазнаёміліся ў мой першы адпачынак, пасля набыцця мной статусу галоўнага рэжысёра, калі яна працавала медсястрой у санаторыі «Беларусь», што ў Місхоры. Цудоўны чалавек. І два нашых сыны — Васіль і Яўген — таксама цудоўныя хлопцы.

Вядома, што восем роляў у горкаўскай «На дне» — жаночыя, таму ад іх выканання ўсе вязні адмовіліся адразу, бо ў турэмных варунках тут ёсць пэўны падтэкст. Мне давялося іх пераконваць, што яшчэ ў шэкспіраўскім тэатры ўсе жаночыя ролі ігралі мужчыны.

Канешне, гэта рэч вельмі ўмоўная, але, калі ўзнікла легенда, што мы паставілі на Акрэсціна п'есу «На дне», я не стаў кагосьці ў чымсьці пераконваць. Мае сукамернікі сапраўды так хацелі і вельмі шчыра да гэтага імкнуліся.

Час ляціць цяпер больш імкліва, чым раней, і, азіраючыся назад, прыходзіш да думкі, што толькі вялікая, моцная мара, якая здольная захапіць усю тваю душу, абавязкова здзейсніцца! Толькі вось трэба ўпарта шукаць тыя дзверцы Сезама і не здавацца.

## Пасляслоўе

Я добра ведаю, што ў спектаклях бывае антракт. Як і тое, што адзін з лепшых беларускіх рэжысёраў Валеры Мазынскі ў 1984 годзе стаў заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, а ў 1986 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію. Слова «антракт» узнікла невыпадкова. На мой погляд, у яго жыцці сёння выключна часовы перапынак, а ўсе істотныя «сцэны» яшчэ наперадзе.

Спадзяюся, адна з іх і адбылася 3 кастрычніка 2011 года, калі была запісана гэтая мая размова з Валерыем Мазынскім.

ОСКАР

# НАСТАЛЬГІЯ ПА ЦЫВІЛІЗАЦЫІ, ШТО СЫШЛА

Андрэй РАСІНСКІ

**Сёлетні «Оскар» адметны трывожна-аптымістычнымі ноткамі развітання. У нябыт сыходзяць не толькі тэхналогіі, але і заходняя цывілізацыя.**

Герой стужкі Вудзі Алена «Апоўначы ў Парыжы», якая атрымала ўзнагароду за лепшы сцэнар, настальгуе па залатым часе, калі Парыж быў сталіцай літаратараў і мастакоў. Летуценнік штоноч сыходзіць ад сваёй нявесты, каб сустрэцца з Пікасо, паразмаўляць з Хемінгуэем і падзяліцца думкамі з Гертрудай Стайн.

Але міжваенны Парыж, які ачуняў пасля Першай сусветнай вайны, яшчэ не ведае пра набліжэнне Другой.

А рамантычны герой і не жадае думаць пра сусветныя мітрэнгі, дый заклапочаны асабістым жыццём. І хаця Ален з цеплынёю жартуе з «уцекачоў», якія пазбягаюць сучаснасці, сённяшні дзень выглядае крохкім, а прышласць — непажаданай.

Яшчэ большаю настальгіяй прасякнутая стужка Марціна Скарсэзэ «Захавальнік часу», дзеянне якой таксама адбываецца ў трыццатыя гады. Хлопчык-сірата, які жыве на вакзале, даглядае гадзіннікі і заінтрыгаваны таямніцай старога, які гандлюе ў шапіку цацкамі.

Стары — ахвяра вайны 1914 года, што знішчыла мары дый пахавала ягоную працу. Гаспадар цацак — заснавальнік кінематографу і маг экрану Жорж Мяльес, які напрыканцы жыцця, сапраўды, гандляваў лялькамі на вакзале.

Карціна Скарсэзэ з «Оскарам» за апаратарскае майстэрства — гэта рарытэтны тэхналагічны фетышызм. Рэжысёр перавёў у аб'ёмныя кадры ўрыўкі з фільмаў Мяльеса; а скарыстаная хроніка стогадовай даўніны з жаўнерамі, якія адпраўляцца ў вір, — яшчэ і з адноўленым колерам.

Фільм Спілберга «Баявы конь», што прэтэндаваў на галоўную ўзнагароду (дый так яе і не ўзяў) паказвае гэтых жаўнераў. Колішнія фермеры і гандляры кладуцца на палях Першай сусветнай вайны; імчыцца на кулямёты зграбны афіцэр на чорным кані; носіцца самотны конь паміж акопаў.

Баявы конь — герой стужкі. Ён прагне вярнуцца дадому да юнака, які ўзгадаваў яго. Карціна слыннага амерыканскага майстра зроблена дасканалая, гэта школа прафесійнае формы. Але, як і ў фільме Марціна Скарсэзэ, форме бракуе спружыны, што зусім не падобна на Стывена Спілберга.

Амаль тэатральная ваенныя дэкарацыі — халаднаватае рэтра заўтрашняй катастрофы.

Самая настальгічна-стылізаваная стужка — франка-бельгійскі «Артыст» Мішэля Хазанавічуса. Гэта нямы чорна-белы фільм пра прыдуманага акцёра старога кіно прэтэндаваў на 10 «Оскараў» і атрымаў 5 — у тым ліку за найлепшую рэжысуру і найлепшую галоўную ролю. Найпершая «оскараўская» карціна распавядае пра заход эпохі нямога кіно.

Папулярны акцёр Джон Валентайн — ягонымі прататыпамі паслужылі забыты «лацінскі палюбоўнік» Рудольф Валянціна, галівудскі герой прыгодаў Дуглас Фэрбэнкс дый яшчэ колькі асобаў — у гукавым кіно не запатрабавана. Ягоная кар'ера абрываецца. У сваю чаргу, юная прыхільніца акцёра паспяхова грае ў новых карцінах — з гутаркамі і песнямі. Персанажы ціхмяна кахаюць адно аднаго, але саромеюцца прызнацца ў пачуццях.

Выкшталцоныя фармальныя практыкаванні Хазанавічуса, які расквеціў нямы фільм музыкай і дазаванымі гукамі, — выклікалі замілаванне ў амерыканскіх акадэмікаў. Французскі фільм — вельмі галівудская стужка з героямі-міфамі, імпэтнымі прадзюсарамі і велічнай кінасістэмай-марай.

Гэтая мара надламалася, яна тоне ў пясках, як герой Валентайна, але спрабуе застацца бадзёрай.

Толькі стылізацыя бадзёрасці замінае.

Залатыя часы ўзгадваюць альбо на досвітку эпохі, альбо на яе змярканні. Бо ў мінулае можна вяртацца па-рознаму. Можна выкарыстоўваць старыя паданні і легенды, каб уладна змяняць сучаснасць дый будаваць новае прышлае. Так паступалі рамантыкі; а стваральнікі нацыянальных дзяржаваў чэрпалі натхненне ў мінулым. Формы, што з'яўляліся, былі, на тагачасны густ, каструбаватымі, але жывымі і пераканаўчымі.

Але можна сыходзіць у мінулае, каб пазбягаць будучыні і адмаўляцца ад сваёй адказнасці за сучаснасць. У гэтым выпадку «ўсё ўжо зроблена»; мінулае — недасягальны ўзор, і адзінае, на што здольныя пазалочаныя нашчадкі, — стылізацыя пад старыя вабноты. Формы ў праўнукаў — дасканалыя і вычварныя, але сапраўднае жыццё з іх сышло.

Менавіта такія стужкі вялі рэй на сёлетнім «Оскары». Адна настальгічна-«фармальная» карціна — падстава для замілавання; дзве — тэндэнцыя; тры — грымоты нябачнае навальніцы.

Што станецца ейным вынікам? Тэхналагічны пакрыш? Заняпад заходняй цывілізацыі? Ці проста — аднаўленне стыляў?

Нямы «Артыст» яшчэ свеціцца аптымізмам, ён таньчыць і глядзіць наперад. Але прышлае, што надыходзіць, будзе не падобнае на ягоную немату.

Калектыў рэдакцыі газеты «Новы час» выказвае шчырыя спачуванні галоўнаму рэдактару Каралю Аляксею Сцяпанавічу ў сувязі з напаткаўшым яго і яго сям'ю горам — смерцю любімай сястры Бейлінай Нэлі Сцяпанаўны.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 204

Падпісана да друку 02.03.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.